УДК 821.161.3-3
ББК 84(4Беи)
Б24

Укладанне, прадмова і каментар
Сяргея Чыгрына

**Бартуль, А.**
Б24 Князёўна : з паэтычнай спадчыны / Аўген Бартуль ; уклад., прадм., камент. С. Чыгрына. — Мінск : Кнігазбор, 2016. — 108 с.
ISBN 978-985-7144-98-3.

Упершыню ў Беларусі асобным зборнікам выдаюцца выбраныя паэтычныя творы заходнебеларускага паэта Аўгена Бартуля (1908 — пасля 1947).

**УДК 821.161.3-3**
**ББК 84(4Беи)**

**ISBN 978-985-7144-98-3**


## Паэт быў духам малады

У «Гісторыі беларускай савецкай літаратуры», выдадзенай у Мінску ў 1964 годзе, літаратуразнавец Уладзімір Калеснік пісаў: «Галоўнай фігурай сярод нацыянал-дэмакратаў быў Казімір Сваяк. На яго арыентаваліся А. Бартуль, Ф.Грышкевіч і некаторыя іншыя». У рускамоўным выданні гэтай кнігі (1977) сказана, што «дань эстетским вывертам отдавали начинающие авторы из студенческой молодёжи (Е. Бартуль, Ф. Гришкевич и др.)». Сёння я не зусім пагаджуся з тым, што напісаў некалі Уладзімір Калеснік пра Бартуля і Грышкевіча. Адно скажу, што з некаторымі вершамі Франука Грышкевіча сучасны беларускі чытач ужо даўно пазнаёміўся. Аўтар гэтых радкоў у 1999 годзе падрыхтаваў і выдаў у Беластоку кнігу «Вяртанне да сваіх», куды ўвайшлі творы Станіслава Грынкевіча, Франука Грышкевіча і Уладыслава Казлоўшчыка.

Не менш здольным за гэтых заходнебеларускіх літаратараў быў і яшчэ адзін рамантык у якога «бунтавала кроў бунтарная» і «хто быў духам малады» — гэта Аўген Бартуль. З аўтабіяграфіі Аўгена Бартуля, якая напісана на польскай мове, і захоўваецца ў Цэнтральным дзяржаўным архіве Літвы (ф. 175, воп. 2, спр. 556, арк. 29), стала вядома, што Аўген Бартуль нарадзіўся ў Пецярбургу 26 лютага 1908 года. Ягоным бацькам быў фармацэўт Данат Бартуль, які працаваў у аптэцы Пелля ў Пецярбургу, а маці — Юлія Бонфельдт была хатняй гаспадыняй.

У 1917 годзе Аўген Бартуль паступіў у першы клас школы імя Сестранцэвіча пры касцёле святога Станіслава. Але праз год хлопчык пакінуў вучобу, таму што ягоныя бацькі, у сувязі з рэвалюцыйнымі хваляваннямі і прадбачанага голаду, выехалі з Пецярбурга на радзіму ў

Віцебскую губерню Дзісенскі павет Прыдруйскую гміну, дзе ў іх быў кавалак зямлі, на якой Бартулі і пасяліліся.

Да восені 1922 года Аўгена дома вучыў бацька. А потым юны Бартуль паступіў ў пяты клас Дзвінскай дзяржаўнай беларускай гімназіі, якую закончыў у 1926 годзе. Пасля заканчэння гімназіі, стаў слухачом матэматычна-прыродазнаўчага факультэта Віленскага універсітэта імя Стэфана Баторыя, на якім вывучаў хімію на працягу аднаго года. А потым быў залічаны студэнтам прыродазнаўчага факультэта. Праўда, у 1928 годзе юнак перавёўся на юрыдычны факультэт універсітэта.

Калі вучыўся Аўген Бартуль у Вільні, на Дзісеншчыне памерлі яго бацькі. Апекавацца юнаком стаў просты селянін з Латвіі Уладзіслаў Камараневіч. Магчыма, гэта быў нейкі сваяк Бартуляў.

Падчас вучобы ў Вільні, Аўген Бартуль прымаў самы актыўны ўдзел у беларускім моладзевым руху. У лютым 1927 года юнак становіцца вольным сябрам урада Беларускага Студэнцкага Саюза (БСС). Праз год яго выбіраюць скарбнікам БСС, а ў траўні 1930 года — сакратаром БСС.

У студзені 1930 года ў Празе адбыўся пяты з’езд аб’яднання беларускіх студэнцкіх арганізацый (АБСА). Ад Беларускага Студэнцкага Саюза з Вільні ў з’ездзе прынялі ўдзел Станіслаў Станкевіч і Аўген Бартуль. На з’ездзе АБСА было вырашана некаторыя яго чэшскія аддзелы перанесці ў Вільню, а ў Празе пакінуць толькі аддзел міжнародных зносін. Прэсавы аддзел у Вільні ўзначалілі Станіслаў Станкевіч, Мар’ян Пецюкевіч і Аўген Бартуль. Як піша гісторык Уладзімір Ляхоўскі ў сваёй кнізе «Ад гоманцаў да гайсакоў» (Беласток; Вільня, 2012. С. 344), «беларускае студэнцтва Вільні было добра інфармаванае аб справе «СВБ» і масавых арыштах у БССР. 18 сакавіка 1930 года сябры БСС прынялі першае «пратэстацыйнае веча», на якім Станіслаў Станкевіч, Яўген Бартуль і Сяргей Сарока ад імя ўсяго Саюза выказалі абурэнне арыштамі дзясяткаў беларускіх нацыянальных дзеячаў».

Не дужа добра Аўгену Бартулю і яго сябрам жылося і ў Вільні. У 1927 годзе была спроба стварыць згуртаванне маладых беларускіх пісьменнікаў Заходняй Беларусі. Хлопцы і дзяўчаты хацелі зарэгістраваць літаратурнае аб’яднанне «Веснаход», але польскія ўлады адмовілі ім у рэгістрацыі. Пашанцавала толькі ў 1928 годзе ў Вільні выдаць асобным зборнічкам творы беларускіх літаратараў «Рунь веснаходу». Зборнік адкрываўся вершамі Аўгена Бартуля. Надрукаваны там былі і яго празаічныя мініяцюры.



Вясною 1931 года Аўген Бартуль і яшчэ 11 чалавек вырашылі стварыць студэнцкую карпарацыю «Скарынія». Але, пры гэтым не выходзіць з БСС. Многім сябрам БСС гэта не спадабалася. Пачаліся розныя спрэчкі і крытыка. Уладзімір Ляхоўскі піша, што «з гэтага часу пачынаюцца вострыя спрэчкі паміж дзвюма групоўкамі, якія эпізадычна выліваліся на старонкі іх друкаваных органаў: часопіса БСС «Студэнцкая думка» і «санацыйнага» перыёдыка «Новая варта» (Novaja Varta). У «паленіцы» найбольш шчыравалі прыхільнікі Цэнтрасаюза. Трэба сказаць, што пазіцыя прыхільнікаў «беларускай санацыі» не знайшла належнай падтрымкі сярод беларускага студэнцтва. Большасць засталася ў рамках старога Беларускага Студэнцкага Саюза (прыкладна 45 чалавек). «Цэнтрасаюз» і яго маладзёвае крыло — «Скарынія» — жорстка крытыкавалася як камуністамі, так і хадэкамі. У самой арганізацыі таксама штораз узнікалі ўнутраныя непаразуменні...» (Уладзімір Ляхоўскі. Ад гоманаў да гайсакоў. Беласток; Вільня, 2012. С. 357). Летам 1934 года «Скарынія» была ліквідавана...

Аўген Бартуль пачаў друкаваць свае вершы ў 1925 годзе. Часопіс «Студэнцкая думка» друкуе яго баладу з даўніх часоў «Голас Нёмна». А потым вершы паэта з’яўляюцца ў «Народным звоне», «Голасе беларуса», «Школьнай працы», «Беларускай крыніцы», «Беларускай культуры», «Шляху моладзі», беларускіх календарах і розных зборніках. Тры вершы аўтара «Марш моладзі», «Бунтаўшчык» і «Вечар працоўных» былі змешчаны ў зборніку «Першы крок», які выйшаў з друку ў Рызе ў 1926 годзе. Народны паэт Латвіі Ян Райніс уважліва прачытаў гэты зборнік. І адзін верш маладога Бартуля

«Бунтаўшчык» яму дужа спадабаўся. Ён пераклаў яго на латышскую мову і апублікаваў у газеце «Яўнакас Зінас» 28 ліпеня 1926 года.

У 1927 годзе паэт піша паэму «Машэка», якая з’явілася ў літаратурна-грамадскім часопісе «Беларуская культура» у № 2–3 за 1927 год. Дарэчы, выйшлі толькі тры нумары ў двух кнігах гэтага выдання, якое рэдагаваў Францішак Умястоўскі (1882–1940). Вядома ж, паэма Бартуля нашмат слабейшая за паэму таго ж Янкі Купалы. Магчыма, Бартуль, калі прачытаў паэму «Магіла льва», натхніўся на напісанне сваёй паэмы, дзе вобраз Машэкі Аўген Бартуль паказаў, як героя, які абараняў простых людзей, а калі Машэку зарэзала дзяўчына, то «засталісь бедакі без заступніка, без заступніка, без даглядчыка».

Наогул, у вершах Аўгена Бартуля шчыра паўставалі адраджэнскія і нацыянальна-патрыятычныя ідэалы, якія былі авеяны рысамі рамантычнага гістарызму. У той жа ў п’есе-казцы ў двух актах «Князёўна» паэт стварыў вобраз высакароднага і адважнага Рыцара, які заступаўся за просты люд, за Князёўну. Пад Князёўнай аўтар падразумяваў родную Беларусь.

Аўген Бартуль вельмі часта выступаў з дакладамі на самыя розныя тэмы. Напрыклад, да 10-годдзя БСС ён зрабіў агульны агляд дзейнасці Беларускага Студэнцкага Саюза. А 13 кастрычніка 1929 года перад сябрамі БСС выступіў з дакладам «Увагі аб мастацтве».

Пісаў беларускі юнак і прозу, перакладаў з нямецкай, польскай, латышскай, украінскіх моў на беларускую. Нават міжнародны студэнцкі гімн «Гаўдэамус», як успамінае Антон Шукелойць у кнізе Святланы Белай «Да роднага ганку» (Мінск, 2009. С. 182), таксама пераклаў.

Да 5-годдзя сваёй літаратурнай дзейнасці, у 1930 годзе Аўген Бартуль падрыхтаваў сваю кнігу вершаў, перакладаў, лірычных мініяцюр і хацеў яе выдаць. Кніга налічвала каля 250 старонак. Але чаму яна не выйшла з друку — застаецца загадкай.

У 1931 годзе, пасля заканчэння Віленскага універсітэта, Аўген атрымаў званне магістр права. Працаваў следчым на Лідчыне і ў Вільні. А з 1937 года жыў ў



Варшаве. Бо ў гэты час пісаў у Віленскі ўніверсітэт, каб яму даслалі даведку для нейкай варшаўскай установы.

На жаль, у канцы 1930-х гадоў Аўген Бартуль пакінуў пісаць вершы, а таксама нікому не дазваляў перадрукоўваць свае творы. А калі гэта хто рабіў без дазволу, справа нават магла дайсці да суда. Чаму назаўсёды развітаўся з паэтычным пяром таленавіты беларускі юнак, цяжка адказаць. Маленькая адгадка наконт гэтага выплывае толькі з з «Ліосткоў календара» Максіма Танка: «Каля «Бара Акацімскага» ледзь не напароўся на Х. Ільяшэвіча і А. Бартуля — не так даўно яшчэ двух славутых паэтаў (быў гэта 1935 год. — *С. Ч.*). Першы, стаўшы ценем Р. Астроўскага, п’е, спыніўшыся на нейкім раздарожжы паэзіі і непаэзіі, піша свае анемічныя, выхалашчаныя вершы; другі, як яго вусаты патрон, які, даехаўшы ў свой час на трамваі да прыпынку «Незалежнасць», развітаўся з сацыялізмам, дабраўшыся да панскага карыта, развітаўся са сваім былым радыкалізмам і вершамі і зараз памагае пракурору пісаць акты абвінавачання супраць нас. Помню, у 1930 годзе мяне з імі пазнаёміла сястра Лю — Зося. А Бартуль тады, здаецца, адзначаў пяцігоддзе сваёй літаратурнай дзейнасці… Другая сустрэча была праз год, калі мяне ў наручніках прывезлі з Глыбокага ў Вільнюскі акруговы суд і прывялі на допыт да следчага, у пакоі якога я неспадзявана ўбачыў А. Бартуля. Ён увесь час, пакуль мяне дапытвалі, сядзеў за сталом, апусціўшы галаву, не адрываючы вачэй ад нейкіх папер. І вось — трэцяя сустрэча з памочнікам следчага. Добра, што не заўважылі мяне. Я спыніўся каля вітрыны кніжнага магазіна, у якой, быццам у люстры, бачыў, як яны перайшлі на другую старану вуліцы. Ля старой камяніцы, дзе, здаецца, мясцілася калісьці славутая друкарня Мамонічаў, стаяла некалькі рамізнікаў. Удвух яны, уваліўшыся ў сані, паехалі ў бок Нямецкай вуліцы. Можа, куды зноў піць…».

У пачатку 1930-х гадоў Аўген Бартуль цалкам пераключыўся на публіцыстыку. Публіцыстычныя артыкулы ён друкуе ў часопісах «Novaja varta» (Новая варта) і «Калосьсе». Калі ў «Новай варце» ён публікуе іх пад сваім

уласным прозвішчам (першы дыскусійны артыкул «У дарозе да новага ладу» з'явіўся ў 1931 годзе ў № 1), то ў «Калосьсях» артыкулы друкуюцца пад псеўданімам А. Бужанскі. Гэта артыкулы, прысвечаныя Івану Саланевічу, творчасці Максіма Танка, паэмам Міхася Машары, спеваку Паўлу Пракапені і іншыя.

Пасля Другой сусветнай вайны след Аўгена Бартуля губляецца дзесьці на Захадзе. Вядома толькі, што ў 1947 годзе ён яшчэ быў жывы...

Да сказанага вышэй хочацца ўсё ж дадаць, што з гісторыі беларускай літаратуры Аўгена Бартуля выкінуць і выкрасліць немагчыма. Ён быў вельмі таленавітым і дасведчаным чалавекам. Пераждыць усе тыя катаклізмы, якія адбываліся найперш у коле творчай беларускай інтэлігенцыі і палітычныя падзеі ў Заходняй Беларусі ён не змог.

Данінай яго светлай памяці няхай будзе гэты ягоны першы паэтычны зборнік «Князёўна». Спадзяюся, што з цягам часу збяруцца і выдадуцца асобнай кнігай яшчэ пераклады, проза і літаратуразнаўчыя артыкулы нашага забытага літаратара.

*Сяргей Чыгрын*

## Бунтаўшчык

Я з ветрам — як сябра,
Я з ім — як з сваім!
Я — сябра і з дымам,
Я — вольны, як дым!
Кручуся, ірвуся
Ўгару, у прастор!
Я — вольны, я — буйны,
Ірвуся да зор!
Як вырвусь, дык разам
Ў прастор крутану,
Памкнуся, як віхар,
Да зор шыбану.
Сарву з неба зорку,
Пушчу на зямлю.
У даль зноў памкнуся! —
Быць вольным люблю!
За хвілю шалёнства
Я ўсё, ўсё аддам! —
Я мкнуся, каб згінуць!
Я — сам сабе пан!

*Дзвінск, сакавік 1926 г.*

## Марш моладзі

Мы — водгалас руху, што край абхапіў,
Мы чуем, — для водкліку хопіць нам сіл.
Мы — моладзь, дык будзем для краю раднога
Верныя, шчырыя сіла-падмога!
Руху ідэі — нашы ідэі!
Да іх мы сягаем, поўны надзеі.
Хутчэй, брацця, ўперад! Хутчэй, без упынку!
Дакуль дасягнём іх, не трэба спачынку!

*Дзвінск, сакавік 1926 г.*

## Вечар працоўных

Гаснуць апошнія коскі,
Кладуцца вячэрнія цені.
Хмаркі гарацць пазалотай, —
Паволі слабеюць прамені.
Як быццам журба аб мінулым, —
Адценак жалобы разліты.
Чырвона-ліловай імглою
Ўвесь захад, што фарбай, пакрыты.
Гэта дзень да канца падыходзе.
Хутка ноч — на спачынак працоўным!
І з'яднаныя працай агульнай
Ідуць людзі ў натоўпе агромным.
Ідуць людзі, нясуць сваю працу,
Ідуць шляхам, што ўецца крывава!
Ад рук ў мазалях — моцай вее!
Постаць кажа: «Мы — сіла, мы — права!»

*Дзвінск, люты 1926 г.*



## Брату

Як часам сумуеш і сэрца ірвецца,
Ірвецца, крывавіць ад жалю ў грудзях.
І недзе ў край шчасця нязведаны мкнецца,
Не могучы праўду знайсці ў людзях —
У гэту хвіліну не трэба атруты
І ў забыцці цябе час не міне,
Нанова бо ўбачыш ты вобраз з пакуты,
Ты радасці пэўна не знойдзеш ўва сне.
Шукай лепей шчасця ў служэнні народу,
Зніштож сябе, браце, забудзь аб сабе, —
І ў гэтым ты знойдзеш з душой сваёй згоду,
Тады ў ёй не будзе ўжо месца жальбе.
Бяры праўды светач і цемру навокал
Развей, пажажы разганяць, развяваць,
Тады тваё сэрца свабодна, як сокал,
Не будзе балець, ці зусім заміраць.
Ў цярпенні ты знойдзеш тады асалоду
І радасць убачыш напэўна ў журбе,
Шукай толькі шчасця ў служэнні народу,
Зніштож сябе, браце, забудзь аб сабе.
Зусім распраміся у родным прасторы,
Каханнем магутным свой край абнімі.
Пацеш яго, браце, пацеш яго ў горы,
Скажы, што ідуць ужо светлыя дні.

## Хмара

Птушка ляціць, а з-пад крылаў
Віхар страшны ўздымаецца.
Сыплюцца пёры агністыя,
Што маланкай людзьмі прызываецца.
Грукатам коцяцца, ударамі,
Крыкні, дык голас раскатамі,

Хутка ляціць цёмнакрылая,
Імкнецца над нівамі, хатамі.
Імкнецца ўкруг час рассяваючы,
Хутка наперад спяшаецца.
Гімны прастору спяваючы,
Віхар страшны уздымаецца.

## Русалкі

Над балотам, над зялёным
Задрамала ўжо трысцё,
І лаза схілілась ціха,
Як замерла ўсё жыццё.
Месяц ясны свет кідае
З па-за лёгкіх пёраў хмар,
У вадзе адбіта неба,
Край летуценняў і мар.
Пара белая ўспаўзае
І русалкаў карагод
Лёгка ймглою закруціўся
У шалёны вір і лёт.
То спадаюць, то ўзлятаюць,
То імкнуцца чарадой,
Разбягуцца над балотам,
То ўзноў круцяць над вадой.
І танцуючы ў паветры
Песню ціха завялі.
Гукі крэпкі і ляцелі
Над прасторамі зямлі:
«Мы русалкі, духі ночы,
Дзеці возераў, балот,
Круцім, ўемся у прасторы,
Мы не бачым перашкод.
Асака нам шэпча казкі,
Мы калышамся ў лазе,



Мы не ведаем аб горы,
Мы не чулі аб тузе.
Лёгка хваля нас падхопе,
Панясе у глыбіню.
Там крыштальныя палацы,
Там праводзім дзень пры дню.
З рыбкай срэбнаю гуляем,
На ўздагонкі з ёй плывём.
Вадзянік нам бае казкі...
Так праходзіць дзень за днём!
Зноў ўсплываем на паверхню,
З лілій мы вяночкі ўём,
Свае песні мы заводзім,
Аб жыцці сваім пяём.
З лесуном мы пажартуем,
Наламаем мы бяроз,
Абальём яго старога
Брылляншістай вадой рос.
Ён пагоніцца за намі,
Мы ўзлятаем ў вышыню,
Хай стары вось пазлуецца —
Ён кахае цішыню.
Зарагочам мы вясёла,
Ўторыць нам зялёны лес.
Кожны любіць весяліцца,
Нам ніхто не йдзе ў разрэз.
Мы людзей не разумеем,
Іх жыццё адзіны сум,
Вечна нечага шукаюць,
Вечна поўны нейкіх дум.
Ў летуценнях , у тумане
Борзда іх праходзе век.
Ў нейкім шуму, у змаганні,
Жыве дзіўны чалавек.
Жыць часіну і то марна?

Трэба жыць і ўсім жыццём.
Закруціцца, ўсё забыцца
Так, вось як і мы жывём.
Дый што ж думаць, мы ж не можам
Ні ў чым ім дапамогч,
Гэй! Шалёна лепш закруцім,
Борзда кончыцца ўжо ноч...»
Песня раптам абарвалась,
А русалкі панясліcь:
То круцілі тут над момам,
То да зор ўзляталі ўвысь.
Белым воблачкам круціліcь,
Срэбнай ніткаю-чаргой.
Зноў спадалі, зноў ўзляталі
Над прасторам, над вадой.

## Бацьку
*(Вечнае памяці)*

Ў гадзіну цяжкую жыцця
Ты кінуў усё, ўсяго адрокся,
Ты біўся з доляю ліхой,
Як рыцар паў, ў змаганні змогся.
Ты думкай толькі жыў адной
І меў адну святую мэту, —
Каб дзецям лепш калісь жылось,
Ты ім імкнуўся даць асвету.
Дык памяць вечная табе,
Цябе твой сын век не забудзе,
Твая магіла між бяроз
Наймільшым месцам яму будзе.



## Досыць!

Звонкая медзь адазвалась,
Зімны мэталь, як аджыў.
Сціха спачатку ударыў
І гук ўраз за гукам паплыў.
Звоніць і голасам нудным
Гэй колькі суму нясе,
Песню адчаю і жалю,
Скаргу-малітву пяе.
Што ж гэта звону так нудна,
Скуль толькі ў гуках жуды,
Што ж гэтак плачаш жалосна,
Хіба шмат маеш нуды?
Досыць слязлівых ўжо ж нотак,
Трэба, як сталь, крэпкім быць,
Досыць пяяць аб нядолі,
Трэба лепш клікаць, будзіць!
Як дапамогуць нам просьбы,
Хіба ўжо ведаеш сам.
Дык дамагайся лепей
То, што належыць нам.

## Песня віхру

Бура ймкнецца. Я ірву,
Я кручуся, я заву.
Хто з адважнаю душой,
Гэй, у хмары. Гэй за мной!
Пойдзем ўперад мы сцягой
Яркасветнай, агнявой.
Шлях маланка рэжа нам,
Дык ідзём жа, ты не сам,
Ты са мною, віхар я.
Глянь! Нас кліча шырыня.

Хмары йдуць, шалёны ход,
Агняцветны карагод.
То сплятаецца змяёй,
То раскінецца сцяной
Буйна, смела, без акоў.
Ці ж у цябе не грае кроў?
Ці ж не чуеш вольны дух?
Ці не бачыш дзікі рух?
Гэй ляцем, ўгару, ураз!
Цяпер воля! Цяпер час!
Пяруны грымяць: цябе
Я вазьму туды к сабе...
Гэй, хто з вольнаю душой,
Гэй, у хмары, гэй за мной!

## Славацкаму

Ты песняй-красою будзіў свой народ
І новыя сеяў ідэі.
Ты зваў іх заўсёды ісці упярод,
Казаў не губляць ім надзеі.
Гэтыя песні пачулі і мы —
Народ, як калісь твой, загнаны,
Народ, што скідае вяковыя сны,
І подлыя крыша кайданы.
Ў малюнках тваіх бачым долю сваю,
Да сэрца іх блізка прымаем:
Твой прах, што прыбыў на Айчыну тваю,
Ў задуменні мы шчыра вітаем.



## Дзе вы?

Прайшлі залатыя, любыя дні,
Шчасце гэта ў даль адляцела,
Згаснулі ціха кахання агні,
Змоўкнула песня, самлела...
Дзе ж вы падзеліся дзіўныя сны,
Цуднае, казачнай хвілі?
Звялі раскошныя краскі вясны,
Сумна галовы схілілі,
Змоўклі акорды песні бурлівай,
Звонкія струны сарваны.
Эх! Не вярнуць больш пары той шчаслівай,
Жаль толькі ў сэрцы схаваны.
Дз ж тыя першыя, мроі-парывы,
Ласкі каханай дзяўчыны?
Ў даль адыйшоў час бясконца-шчаслівы,
Гаснуць паціху ўспаміны...
Дзе ж тыя мілыя любыя дні?..
Жаль па іх ў сэрцы схаваны.
Згаснулі ціха кахання агні,
Звонкія струны сарваны.

## Станку
*(З рыжскіх успамінаў)*

Помню пару,
Так нядаўна было...
Шчыра завод я любіў,
Хоць ад заводу
Жыццё аднясло —
Песню станка не забыў.
Помню...
Сарвешся з пасцелі сваёй,
Кліча гудок да станка.

Помню станок…
Мімаволі яго гладзіла горда рука.
Помню…
Машыны… трансмісіяў рад…
Скончыў гудок,
Ажылі.
Рукі сціскаліся…
Эй! Станок — брат,
Слаўна з табой мы жылі!
Песні твае,
Што тады ты спяваў,
Помню…
Я помню іх звон,
Я пры табе сваю думку скаваў,
Думку надходзячых дзён.
Я — сын вялікай працоўнай сям'і,
Шчыра завод свой любіў.
Я для працоўных дам сілы свае,
Буду для іх толькі жыў.
Я не забыўся цябе, мой станок,
Помню…
Сталёвы твой звон.
Стану ў рады, як пакліча гудок,
Як клічам распеніцца ён.

* * *

Ў праменнях сонца,
У проблесках блакіту
Прыйшла яна.
Пушыстая,
Як аксаміт,
Бурлівая,
Як віхар дзікі, —
Прыйшла вясна.



Расчэша вецер ёй касу з туманаў,
І галаву ёй ў краскі прыбярэ.
Ёй гімны поле заспявае,
І тае снег.
І ручаі спяваюць —
Прывет вясне!

* * *

Народ! Наш жыве і жыццё, як з крыніцы
Б'е сільна, на волю шыбае.
Ракою магутнай імкнецца разліцца, —
Наш край паўстае, ажывае.
Б'е сіла, нам сілы змагацца хапае,
Спадаюць нядолі аковы,
І сонца вякоў нас усмехам вітае —
Мы ўвойдзема смела ў свет новы.
Да працы, браты! Наш народ будзе вольны, —
Да працы! Хай кожны, што можа,
Ці многа, ці мала, на колькі хто здольны
Ў народную скарбніцу ўложа.
Хто разам з народам, тых клічу да дзела!
Аковы нядолі край скіне
І ўпіша ў гісторыю людскасці смела,
Ён ўпіша сваю назву-імя.

## Слава тым…

Слава тым, хто працаю трывалай
Фундаменты ложа перамозе.
Слава тым, што ўперад йдуць з запалам,
Ідуць па раз абранае дарозе.
Слава тым, хто зрокся шчасця, долі,
Каб аддацца справе бесканечна.

Слава тым, хто згінуў у імя волі,
Слава змагарам хай будзе вечна.
Слава тым, хто церпіць ў імя справы,
Для якой аддаўся ўсёй душою.
Слава тым, хто не жадае славы,
А працуе ў цішыні нямое.
Слава ціхім, цвёрдым, раўнаважным,
Хто адчаю цэлы век не знае.
Слава змагарам нябачным, адважным,
Слава ім ад краю аж да краю.
Але слава і шаленцам, што як бура
Вырываюцца агністаю завеяй,
Рвуцца ў неба, гінуць у лазуры,
Слава, слава смелым праметэям!
У іх упадку чалавека слабасць,
Узлёты — вось вялікасць чалавека.
Хай іх знакам і не ёсць трываласць,
Слава ім аж да сканчэння векаў.
Слава вам, што працаю трывалай
Шлях кладзеце светлае ідэі,
Слава й вам, што рвецеся з запалам,
Слава ціхім! Слава Праметэям!

## Беларусі

Над старою крывіцкай зямлёю
Расцілаецца дзіўны туман.
Развіталіся людзі з вясною,
А над прошлым узнёсся курган.
Сярог мглы, у смяротным зацішшы,
У краіне адвечнага сну
Нешта бліснула там, на узвышшы,
Ці ж бы неба дало нам вясну?..
Нечыя крыллі ціха шумелі,
Нехта плаўна, павольна ляцеў.



Ціхім звонам даносіліся трэлі,
Песні-жальбы там ліўся напеў.
І ў ім гордасць звінела ледзь чутна.
Ён у покліч паволі ўзрастаў.
А ў канцы загрымеў так магутна,
Перакатамі ліўся, сціхаў.
Ў светазарных праменнях зарніцы,
З па-за цёмных, як волава, хмар,
Геній роднае нашай зямліцы
Вылятаў на пахмурны абшар.
На ім белая шата ўзляглася,
Яго стан быў істужкай увіт,
Што чырвона-крывава вілася,
Мук малюнак на ёй быў адбіт.
Яго крылля зямлю атулілі,
Ды жылося так цяжка усім,
Ад бяды, ад нашчасця закрылі,
Ён быў страшны ў веліччы сваім.
Яго вочы — падобныя зорам,
Яго твар, быццам сонца, гарэў.
Ён над родным ўзнасіўся прасторам,
Па-над ім светазарны ляцеў.
Яго голас, як звонкае срэбра,
І цвёрды, як моцная сталь.
Загудзеў дзіўнай сілаю віхра,
Загудзеў і паплыў рэхам ўдаль:
«Ўстань, народ! Я прынёс табе волю,
Я жадаю, каб ты уваскрос!
Даволі цярпеў ты нядолю,
Даволі праліў ты ўжо слёз.
Даволі вас мучылі мары,
Спакой я і праўду прынёс.
Разганю я кашмарныя хмары,
Палепшу цяпер я твой лёс.
Табе сілы і моцы хапае,

Ты мусіш праснуцца, паўстаць,
Глядзі, ужо днее-світае,
Паўстань, ўжо даволі стагнаць!..»
Голас нёсся яго сілай ветраў
І здарыўся, здзейсніўся цуд:
З цемры адвечнае нетраў
Узняўся патоптаны люд.
Ён узяўся за працу і дружна
Новы шлях стаў ўпярод пракладаць.
Ён працуе ахвотна і мужна,
Ён пачаў сваю долю каваць.
Агонь ў горнах палае і ззяе,
Накавальні звіняць і гудзяць.
Сон з павек мімаволі злятае:
Беларусь пачала паўставаць...

* * *

З шумнага дымнага гораду
Сёння на вёску я вырваўся.
Блескам чырвонага золата
Думкай ў прасторы рассыпаўся.
І расспяваўся прасторамі,
Неба блакітнага яснасцю.
Хмарак-каронак узорамі
Сонца бліскучага палкасцю.
Узяў я з-пад клеці ды косаньку,
Узмахамі сыпаў, пракосамі.
Брызгам расперліваў росаньку,
Ціснуў нагамі след босымі.
Поле радзімае зеленню
Песні спявала нязнаныя,
І ўсміхаліся шэранню
Гоні ужо заараныя.
Светласцю, спевам і краскамі



Думкі кружылі, як п'яныя...
Казкай здавалася, казкаю,
Родная вёска, каханая.

## Дудару

Сумныя гукі павольна, ляніва
Так гучна ў паветры плылі,
Як быццам хацелі казаць аб нядолі
І песні пяялі заснуўшай зямлі.
Стары дудар выводзіў свае тоны,
Песні нявольнікаў йграла дуда—
Слухаць хацелась, хацелася плакаць,
Гэта не песня была, а нуда.
Скончыў дудар, ўстрапянуўся ўвесь раптам,
Хутка дуў у пішчык і мне паціскаў,
І новая песня гула ў паветры;
Яе, як здавалась, увесь свет паўтараў.
І моц у мелодыі той адчувалась:
Яна ўсіх будзіла, усім покліч нясла;
Хацелася слухаць, хацелась пяяці,
А песня гула і без конца гула...

* * *

Мільёны дыяментаў зорак
Моц невядомая нясе,
Ў апраўе чорнае прастораў
Зіхцяць яны ў красе.
Зіхцяць яны.
Сарвалася адна...
Ёй надаелі вякоў сны.
Здрыгнулася яна, як срэбная струна
І паляцела ў зіхаценні,

Цудовая ў разгоне, у імкненні,
Бліснула толькі раз.
І пыл срабрысты
Навокал сеючы загасла ў той жа час.
Шлях кінуўся іскрысты.
І зноў спакойна ў карагодзе
Па небе рушаць аганькі.
Зіхцяць, блісцяць ў таемным ходзе,
Заплёўшыся ў чарадзейскія вянкі.
Зігцяць, як вочы у дзяўчыны,
Бліскучыя і агнявыя.
Плывуць у чорнае імгле няведай краіны.
Плывуць і зноў вяртаюцца малыя.
І срэбрам ткуць адзежу ночы,
Малыя дыяменты-вочы.

## Летні вечар

Зарыцца неба, прыгожы прастор,
Колеру ружы узлёгся на бор.
Зоркі у цёмным прасторы мігцяць,
Гэтак прыгожа, таёмна дрыжаць.
Дрэмлюць ужо дрэвы, лісткі ўжо шасцяць,
Так ціха навокал, так сонна ўсе спяць.
Белая пара ўстае ад балот,
Дрэмне над мохам высокі чарот.
Сярод урачыстай такой цішыні
Гукі пачуліся з дрэў глыбіні.
Песня задумы — прыгожасці гімн,
То сумна лілася, то чуўся уздым.
Хацелася слухаць, забыцца аб ўсім,
Аддацца красе цэлым сэрцам сваім.
Хацелася слухаць, ўсё чыста забыць,
Замёрці, замоўкнуць і вечна там быць.



* * *

Ці не лепш без думак жыці?
Ці не лепш усё забыцца,
Ўсё забыцца, ўсё пакінуць,
Ў вір жыццёвы закруціцца.
Жыць сучасным, жыць вясёла,
Хоць навокал сум і гора.
Ці не лепш усё забыцца —
Быць бурлівым, быццам мора?..

## Зіма

У подзьмухах ветраў ільдзістых,
У завеі прыйшла пухавой,
У пёрах-пушынках іскрыстых
З расплеценай белай касой.
Распешчаны духам лядовым
Ў паветры заціхнуў сум дрэў.
Заснуў цёмны лес сном зімовым
Пад дзікі мяцеліцы спеў.
Прыбрала яго чараўніца
У вопратку тканую з зор,
Алмазам пакрыла зямліцу,
На пнях звіўся цуда-узор.
На рэчку аковы ўлажыла,
Пакрыла лядовай карой.
Прасторы імглою спавіла,
Скавала іх ўладай сваёй.
Гуляе зіма-чараўніца —
Што хоча, то зробіць яна.
На полі, што срэбрам іскрыцца,
Гуляе красуння-зіма!

## Гэй, успыхні!

Тлее вогнік сінім блескам,
Тлее нудна, ледзь гарыць.
Гэй ты, ўспыхні з дзікім трэскам,
Калі жыць, дык знача жыць!
Буйным полымем ўзгарыся
Ярка-рэзкім прамянём,
Сотні іскрамі круціся,
У гару ляці снапом.
Каб угледзіць было можна,
Што агонь ты сапраўды,
Каб сказалі: «Асцярожна,
Бо наробіць ён бяды».
Бурай дзікаю, іскрыстай
Ўспыхні, хоць загінеш ўраз,
У завеі залацістай
Момант лепш — чым тлеці час!

*1927*

## З песняў маладосці

Праз шумны і шэры
Рад цяжкіх няўзгод,
Мы поўныя веры
Ідзём у паход.
Ідзём з вольным клічам:
«Гэй, брат, не стагні,
З бадзёрым аблічам
Да сонца цягні».
Скуём, пабудуем
Стальныя рады,
Жыццця не шкадуем,
Дамо заўсяды,
Як толькі пакліча



Народ, мы пайдзём,
Няхай на нас ліча,
Мы ўсё аддадзём
За шчасце і долю
Свае стараны,
Мы любіма волю,
Мы — волі сыны.
Дык смела й вясёла
Цемру развеем,
Мы іскры наўкола
Ветрам рассеем,
Сцяною ірдзістай
Туды з усіх сіл,
Дзе краскай агністай
Цвіце небасхіл.

*1927*

* * *

Браты мае, нас не адзін мільён,
Аднак ўкруг нас яшчэ туман,
Яшчэ нас змуча змора-сон
І цяпер смокча кроў кажан.
Над нашым краем плыве стогн,
Нядолі стогн зычыць між хат.
Плыве усюды і праклён,
Ў адчаі брата цісне брат.
Плыве праклён, нясецца стогн,
Ці ж сілы брацця ў вас няма?
Ці ж вечна будзе зычэць ён?
Ці ж так бяздольна старана?
Браты мае, ўзнясема трон,
Для Волі выведзем пасад.
Мы працай злучымся і стогн
Замоўкне, сціхне каля хат.

Замоўкне стогн і згіне сон
І блісне сонца з па-за хмар...
Браты! Нас не адзін мільён,
Наш край — вялізны ёсць абшар.
Патрэбна праца, а ёй ў тон
Ударам моцным загучыць
Наш вечавы, наш Волі звон,
Наш край паўстаў й будзе жыць!

*1928*

## Бацькаўшчыне

Для цябе збудаваў я алтар ў сваім сэрцы,
У вопратку казак прыбраў я яго,
Для цябе, што стагнала ў чужой паняверцы,
Што знявагі цярпела й ад сына свайго.
Прад вяліччам тваім я схіліўся ў пакоры,
Прад вяліччам тваім, прад цярпеннем тваім,
І душа бунтавала, як хвалі на моры,
Дый спявала ўскрашэнню твайму, маці, гімн.
Даражэйшае шчасце тваё мне за волю,
За ўсялякія скарбы зямлі, за жыццё,
Бо і што ж мне жыццё ў параўнанні з табою,
Ты ўладар майго сэрца, маё багаццё.
І я вырву бунтарнае сэрца ў ахвяру,
Дый злажу я яго на твой слаўны алтар.
Потым вып'ю спакойна прызначання чару,
Дык прымі маё сэрца, вазьмі яго ў дар!

*Вільня, 1928*



## Упярод!

Смялей, ўпярод праз гора і цярпенне,
Смялей — са светачам надзеі
Да шчасця будучага пакалення,
Для здзейснення святой ідэі.
Смялей, браты, няхай злуецца бура,
Хай перуны ў бяссільнай злосці
Грымяць, і хай віхор пяе панура!
Смялей! Ці ж нас стрымае хтосьці?
Смялей! Замоўкне хутка буры песня,
Ўжо сонца лепшых дзён ўзыходзе
І шчасце расцвіце красой прадвесня;
Ўпярод! Смялее мой народ!

*1928*

*** * ***

Бунтуе кроў бунтарная,
Хто не спадлеў, браты.
Да праўды светазарнае,
Хто духам малады.
Да новых дзён натоўпамі
Па новае жыццё,
Ідзём радамі шчыльнымі
Па веду — ў ведзе ўсё.
Жыццё старое змучана,
Разменена зусім,
Даўно апрастытучана —
Дарогу маладым!
Смялей, там усміхаецца
Нам сонечны усход,
Час новы насуваецца,
Да сонца у паход!

## Веснарунь

1

Прыйшла вясна
І фарбаў акварэлі
Кідае на раздолле,
Прыбрала ў зелень лісцяў стройны лес.
Дала яна
Чаромхам красак белле,
І зарунела поле,
І распускаецца пахучы бэз.

2

Адзеўся сад стары
Ў ружова-белы снег,
Сад пухам красак ўвесь засыпаны, акрыты.
Пахучыя пупышкі прыляглі
Да цёмнае кары...
Вось вецер перабег,
Пупышкі рве і сцеле на зямлі,
Кідае на травы зялёнай аксаміты.

*1928*

## * * *

На дыване сузмроку ночы
Вецер траўня расцілае вясновыя зданні,
Зноў любыя мне бачу вочы,
Дзяўчына, ты да мяне прыйшла, маё каханне!

2

Да нас усмешкі шле вясна,
Нас ап'янаюць пахам краскі.



Пяшчотаў чару п'ем да дна,
Снуем чароўныя мы казкі.

3

Смех вясняны —
Задуму вочак тваіх я кахаю.
Дзяўчына, ты мара, ты сон!
Каханнем п'яны
Вуснаў тваіх няпрытомны шукаю,
З грудзей рвецца раскошы стогн.

4

На дыване сузмроку ночы
Іграе, яшчэ так цмяна, прамень першы рання...
Цалую любыя мне вочы,
Яшчэ хвілінку... не адыходзь, маё каханне.

*1928*

## Ноч

Ветрык ў паветры тчэ свае кросны,
Ціха шапочуцца стройныя сосны,
Плаўна істужкаю ўзняўся туман,
Звонка абвіў ён балотны курган.
Ночка спакойна зямлю атуліла,
Вопраткай цёмнаю неба акрыла,
Вопраткай шытаю перламі зораў,
Вопраткай тканаю сілай пракстораў.
Спуджана цені лятуць і імгла
Усё акружыла, паволі лягла,
Топіць яна і злівае усё
Дзіўна —таёмнае творыць жыццё.
Месяц ўзыходзе і срэбныя коскі
Ясна ліюцца на контуры вёскі.

Хмары на небе ложаць быццам пёры,
І ясна мігаюць красачкі-зоры.

*1928*

## 25.III.18–25.III.28

Завіхрылася буйна мяцеліца,
Віхры з посвістам узнімаліся.
І чырвоная ймгла ўсюды сцеліцца,
Песні вольныя раздаваліся.
Бура коціцца, віхар гудам гудзе,
Зямля-матанька ўздрыганулася,
А мяцеліца адно знае мяце:
Сіла вольная скалыхнулася.
Ўжо народаў турма развалілася,
Над краінай, над прасторамі.
Воля вольная ўсім — пракацілася,
Загудзела яна над разорамі.
Воля вольная завітала для ўсіх
І будуюцца зруйнаваныя.
Беларусе, ўставай! Не адстаць ад усіх,
Уставайце, браты катаваныя!

## Міхасю Васільку

На крыллях арліных,
Ў парывах бурлівых
Ірвіся, мой браце, да зор.
І, духам свабодны,
Пакліч народ родны
Выходзіць на вольны прастор.
І рвіся да волі
І жалю ніколі
Ў гады маладыя не знай.
Пакуль кроў іграе,



У жылах палае —
Да шчасця забраны кліч край.
Працуй для народу,
І праўду, і згоду
Старайся знайсці, браце мой.
Адважны, вясёлы
Сей радасць наўкола,
Хоць — можа цярністы шлях твой.
На вуснах з усмешкай,
Жыццёваю сцежкай
Сягай поўны веры ўпярод.
На ўсходзе світае,
Ўжо дзень наступае...
Да сонца, мой браце, ў паход!

## Варта

Глянь, як белы туман
Спавівае курган —
Светку дзён, што прайшлі, адляцелі.
Дрэмле ён пад ракой,
І вячорнай парой
Месяц шлях да яго срэбрам сцеле.
У імгле залатой,
Дух ўецца чаргой,
І русалка там песні заводзіць.
У зіхценні — агні,
З кургана глыбіні
Ў поўнач рыцар схаваны выходзіць.
Яго зброя — агонь,
А пры ім — верны конь,
Ён садзіцца і мкнецца ў прастору.
У імгле залатой
Серабрыстай сцяной
Туды рвецца, дзе бліскаюць зоры.

З вышыні з-пад хмар,
Ён агляне абшар,
Паглядзіць на радзіму краіну.
Ён пільнуе яе,
Памажэ ў барацьбе,
Паддасць моцы зямлі гэтай сыну.
І на варце сваёй,
Так паўночнай парой
Сцеражэ Беларусі ён гоні.
Хто такі, што за ён,
Гэтак лёгкі, як сон,
Гэта цень нашай роднай Пагоні.

* * *

Мы паўсталі,
Мы склікалі
Ўсенародны сход,
І рашылі
З гэтай хвілі
Вольны наш народ!
Беларусі
У прымусе
Годзе ўжо стагнаць,
Край забраны
Зруйнаваны
Трэба будаваць.
У цымбалы,
Што сіл стала,
Хлопчыку цымбаль.
Ў бубны біце,
Ў трубы грайце
Сёння у нас баль.
Доўга спалі,
А ўжо ўсталі,



Воля нас заве.
Край наш родны,
Ўжо свабодны.
Беларусь жыве!

* * *

Не вы сілы маладыя,
Не вы сакалы!
Будзьце, як віхор жывыя,
І мацней скалы.
Слабасць месца хай не знойдзе
Ў маладых грудзях,
Ўсё жывое з намі пойдзе
З агнём у вачах.
Ці ж мы, брацце, не здабудзем
Лепшых, светлых дзён?
Ці ж мы сіл сваіх не чуем,
Ці ж нас чмуціць сон?
Мы адважна, грамадою,
Шлях пралtожым свой.
Моладзь з бурнаю душою
З душой агнявой.
Дзеці працы і змагання,
Кліча нас народ!
Досыць мучылі нас здання —
Мы ідзем ў паход.
Дык да мэты! Больш адвагі,
Смялей, сакалы!
Поўны мы жыццёвай прагі,
Мы мацней скалы!

* * *

Даспела жыта залатое,
Па ім ганяе ветрык хвалі,
Згінае колас, ядраное
Зігціць адлівам сіні-сталі.
Даспела жыта. Каласочкі
Стаяць, чакаюць свайго жніва,
Між іх сінеюць васілёчкі,
Красою дужа жоўта ніва.
Красуе дужа у чаканні,
Калі ж нарэшце прыйдзе жнейка,
Калі іх споўняцца жаданні,
Калі ж закруціць сярпок-змейка.
Калі вязьмо заўецца жнейкай
І звяжа іх, ў снапок з'яднае,
Стаяць яны ў задуме нейкай,
А ветрык шапаціць, спявае...
І час прыйшоў, вязьмо звілося,
Звілося жнейкай з каласкоў.
Жаданне шчырае збылося,
Бо іх злучыў ў адно акоў.
Акоў — вязёмка з каласочкаў,
Звязала разам каласкі.
Між іх сінее пара вочкаў,
Дык гэта краскі васількі.

* * *

У паветры чыстым, як крышталь,
Дрыжаць бліскучыя прамені.
І срэбная іскрыцца даль,
Ззяе, быццам ў задуменні.
На эксамітным дыване
Травы і красак шматкалёрных,



Раса брыльянтам мільгане,
Засвеціць на лістках узорных.
Спакой навокал і ў нізу,
Калосся шапацяць маўкліва,
Спакойна, ціха на душы
І моліцца, як чую, ніва.
І я малітвай ёй ўтару,
Красе малюся ў захапленні...
Малітва-шопат ідзе ў гару
Туды, дзе зіхацяць прамені.

## Непагода

Па небе чаргой беспакойна
Віхрыстыя цягнуцца хмары,
Ў праменнях электрыкі ясна
Ззяюць, блішчаць тратуары.
На клавішах дахаў дождж грае,
На вокнах бубніць пераборам.
І дзынкаюць каплі па лужах
Тужліва, як быццам з дакорам.
А вецер ўтарыць безустанку
У гуках такіх беспакойных,
То ў каляіне плача жалосна,
То грае на дрэвах ён стройных
У бубен гулкіх стаўняў ён букне
І змоўкне на хвілю бурлівы.
То з шумам імкнецца бунтарны
На волю, ў прасторы на нівы.
І каплі іграюць ўжо самі
На струнах слупоў тэлефонных,
Булькочуць і ціха сплываюць
Ў канавах плывуць яны поўных.
Глядзяць аднавокам слязлівым
Вітрыны упорчыва-стала,

Прахожыя хутка мільгаюць,
На вуліцы руху так мала.

## Ледаход

Скінула рэчка аковы сталёвы,
Скінула путы няволі лядовы,
Досыць гібела, ёй хочацца волі
Імкнецца магутна ў шырокім раздоллі.
Бурляць толькі хвалі, ламаюць аковы
І рэчка прымае ўжо выгляд новы.
Крыгі скрыгочуць ў бяссільным аноры,
Лезуць, гуртуюцца, робяцца горы.
Ужо, ўжо стрымаюць вады ход магутны
І грукат замоўкнуў, зрабіўся ледзь чутны.
Вада надымаецца грозна, спакойна,
Вялікаю масай ідзе ў гору стройна.
Звяры ледзяныя напор адпіраюць,
Дый дзе ім стрымацца, хвалі ўдараюць,
Лоскат узняўся і шум перамогі,
Вада забурліла, свабодны дарогі.
Ідзе рэчка ўперад, аковы разбіты,
Ў змаганні за волю ёй шлях ўжо адкрыты,
Імкнецца, разліўшыся ў шырокім прыволлі,
Ўжо досыць гібела, ёй хочацца волі.

* * *

Каханне, як мора,
Так ціха парою
Агорне душу, абыйме.
Забудзеш ты гора —



Мяцежнай душою
Заціхнеш, замоўкнеш ў паўсне.
Тады табе сняцца
Срабрыстая далі,
Мінаюць цудоўныя дні,
Як хочаш узняцца —
Жамчужныя хвалі
З пяшчотай шапочуць: «Засні!».
Ў зефіры цалунках
Цябе ўкалышуць,
Спяваючы песні вясне.
Спакой знойдзеш ў думках,
І боль твой усцешаць,
Дадуць забыццё ў паўсне.

* * *

Ўглядзіся, прахожы, з здзіўленнем,
На цуд, што стаіць прад табою,
Ўглядзіся, ён дыша натхненнем —
Касцёл гэты Ганны святое.
Глянь, стромкія вежы імкнуцца,
Як мроі аб лепшым жыцці.
Да зораў іх цягне — ірвуцца
Ад вечна тужлівай зямлі.
Кароткаю ўюцца узоры
Ад поўных знямогі асноў.
І цягнуцца лёгка ў прастору,
Вядуць карагод ціхіх сноў.
Артыста з каменняў і цэглы
Абраз поўны дзіву стварыў.
Парывы душы сваёй светлай
У твор гэты цалкам ўлажыў.

І дыша святыня натхненнем,
Прыбраў яе ласкай спакой.
Ўглядзіся ў яе з задуменнем —
Касцёл гэта Ганны святой.

*Вільня, 13.V.1929*

## Над Вілейкай

У прорве блакітаў, як вечар настане,
Цьмінна сіяюць алмазныя зоры.
Неба зямлі шле сваё прывітанне,
Светласцю тайнікаў свецяць прасторы.
Ў ціхай задуме сяджу над Вілейкай,
Слухаю песні — чароўныя казкі
Рэчкі, што ўецца узорнаю змейкай,
Слухаю гоман яе поўны ласкі.
Вяз над вадою схіліўся маўклівы,
Грае Вілейка полыскам сталі,
Белаю пенай красуюцца ўзрывы —
Краскі, аб камні разбітае хвалі.
Цені галінаў ляглі на ўзбярэжжа
Фантастыкай дзіўнай — арабскім пісьмом,
Недзе гадзіннік ударыў на вежы,
Ад гор аж адбіўся яго срэбны звон.
Хмары каронаю белай прыбралі
Ціха над рэчкай спячыя горы.
Беллю трохкрыжкаю моляцца далі,
У просінь спавіліся места прасторы.
Мроі бясконца аб тайніцах вечных,
Аб дзіўным сусвету вяліччы-красе,
Звонам на хвалях сваіх сумнацечных
Мне песні спявае Вілейка свае.

*Вільня, 6.V.1929*



## Трыялеты

Мне даспадобы склад такі,
Вось я спрабую трыялеты.
І хоць старая форма гэта, —
Яе прыбралі ў пыл гады.
Ды паслухмяныя паэты —
Скlаліся думкі у радкі —
Мне даспадобы склад такі,
Вось я спрабую трыялеты.

* * *

Мінулае — прыгожы сон,
А будучае — вецер гэта.
Трымаючы тады мамента,
Бо толькі і істнуе ён.
Схапіць мамент, вось мая мэта,
Бо чую словы прошлых дзён —
Мінулае — прыгожы сон,
А будучае — вецер гэта.

* * *

Яму сталёвы карагод
Спявае песні працы годна,
А ён — рабочы, ў змасцы, потны,
Тавары творыць з году ў год.
Ў бядзе, абдзёрты і галодны,
Яму ж машын пакорны ход.
Яму сталёвы карагод
Спявае песні працы годна.

*Вільня, 12.IX.1929*

## Светлай памяці Райніса

Зямлю латышскую жалоба скрыла,
Вялікі сын яе так раптам адышоў
У іншы свет. Замоўкла, сціхла ліра
І жаль застаўся, толькі жаль нямы без слоў...
Памёр прыяцель нашага народу,
Дзе мог, там з помаччу для нас прыходзіў ён.
Змагар за раўнапраўе і свабоду,
Звяздун вялікіх, светлых будучыні дзён.
Змагар за шчасце грамады працоўнай
Бяды спазнаў... была знаёмая турма...
Рабочыя не раз за працай горкай
Прыпомняць сумныя свайго правадыра.
Мы лучымся з зямлёй латышскай у горы,
Спакой яму! Ён будзе ў песнях жыць.
І слава, аж пакуль ў Балтыйскім моры
Вада не высахне, няхай яму грыміць!

*Вільня, 14.IX.1929*

* * *

Думкі мае, летуценні мае,
Як я вас моцна люблю.
З вамі ў нейкім чароўным паўсне
Я пакідаю зямлю.
Смела імкнуся ў край небыцця,
Вольны, не знаю акоў.
Гэтак далёкі ад суму жыцця,
Роем акружаны зноў.
Там я хвіліну душой супачну,
Песні свае запяю.
Радасць знаходжу, спаткаю вясну,
Казкі бясконца сную.
Мрою бясконца, я мроіць люблю,
Думкам аддам я жыццё.
З імі кідаю адважна зямлю,
Думкі — каханне маё.



* * *

Заплакалі струны,
І радасць прапала,
І край знову сумны.
Зноў сонца не стала.
Маркотна... навокала ціш.
Стаптанае права,
Ўсё чыста забылі,
Мяжою крывавай
Наш край раздзялілі,
Узлажылі на плечы нам крыж.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Яшчэ нам воля агняцветам
Над Беларуссю расцвіце,
І светазарным сваім светам
Далёка злыдняў адмяце.
Браты! Да працы, да яднання,
Сваёй працоўнаю рукой
Мы пераможамо ў змаганні.
Хутчэй да працы, грамадой!
Хутчэй да працы, каб кіпела,
Пагоня нам пакажа шлях.
Яшчэ ўзаўецца горда, смела
Наш бел-чырвона-белы сцяг.

## Вёсцы

*Прысвячаю брату*

1

Эх, вёска, ты шэрая вёска,
Хаты паросшыя мохам,
Плакучая гнецца бярозка —
Сумна стаіць па-над плотам.
Эх, мроі, паўсонныя мроі —
Болей шматкоў бы зямліцы,
Эх, што нам сусвету астоі,
Хлеба было бы, вадзіцы.
Мы маем хаціну-куточак,
Хлеў, парасё і кароўку.
Вось нам бы зямліцы шматочак,
Лоўка было бы, ай лоўка!
Нам Бог ўраджаі дасць на полі,
Кару мы прыймем пакорна,
Бо ўсюды ягоная доля,
Што схоча дасць ўсероўна.
Хай намі хто хоча кіруе,
Менш бы падаткаў і досць,
Хоць тут чалавек пагаруе,
На тым свеце лепш мо ёсць?..

2

Эх, вёска, ты вёска старая,
Глянь, новы час надыходзе.
І доля чакая артая,
Спаць ужо досць, ужо годзе.
Адкуль з-пад далёкага места,
Дзе дымам спавіты хмары,
Дзе людзям так душна і цесна,
Выйшлі сталёвыя мары.



Гэй, шэрая вёска, ці чуеш!
Балоты, палі, сенажаць,
Гэй, вёска, што прыгатуеш,
Гасцей з чыстай сталі спаткаць!

3

Глянь!
Рад за радам
Ўладарна,
Крокам сталёвым
Сягаюць яны,
Зубамі шасцёрак
Бунтарна
Нядолю ірвуць старыны.
Дымам
Плююцца аж ў неба,
Грукатам — звонам,
Песняю новай
Будзіцца
Соннае ўлонне зямлі.
Даль задрыжэла
Песняй сталёвай,
Вёска, паслухай,
Як трактар
Спявае —
Прошламу reguiem.
У след яму ўторАць
Жніваркі —
Не ўстане саха.
Хвалямі ток электрычны
Ліецца.
Вёска
Агнямі сіяе,
Навокал
Гудзіць і ліецца

Слова новае —
Індустрыялізацыя.

4

Шкадую старую вёску,
Бо знішчаць яе машыны.
Не будзе больш пахнуць бярозка —
Вёска запахне бензінам.
І шкода, і радасна разам,
Надзеяю сэрца хвалюе...
І сумна зноў робіцца часам,
Мне шкода вёску старую.

5

Эх, вёска, ты вёска паслухай,
Госці стальныя надходзяць.
Гэй, ім на спатканне ты рухай,
Час лепшы з імі прыходзіць.

*** * ***

Вечар смяецца вось так, як калісьці,
Дрэвы шапочуць
І сны сняць паціху,
Вецер цалуе лістоў аксаміты.
З ціхай усмешкай
Калышуца лісці.
Вечар спакойны блакітнага лета.
Прошлых часоў уваскрашае ўспаміны.
Зноў мне згадаліся вочы дзяўчыны,
Прошлыя мроі
Згадаліся гэта.
Зноў абудзіліся песні кахання,
Эрас крануўся да струн маёй ліры,
Песняй азваўся



Спакойнай,
Шчаслівай.
Смутку няма ў ёй ні каплі,
Ні звання,
Палкасцю гэтая песня
Не дыша.
П’янай чаргою завіхраных
Думкаў,
Kроў не хвалюе мне
Бурай цалункаў,
Мроямі, сном
Толькі
Ціхім калыша.

## Праз вакно

Гляджу сабе
На белы свет
Я праз вакно,
Ў ім цудна так вітражы пацвіваюць.
І ферментуе ў жылах
Моладасць — віно,
Яшчэ я сілай моладасці п’яны.
Яшчэ маю досыць сіл,
Я чую іх.
Прад бураю жыцця
Яшчэ не гнуся,
Бо палкасці агонь
Гарыць ў грудзях маіх
І я ў змаганні
Хутка не спынюся.
Не страшна мне жыццё,
Мне песняй сэрца б’е,
Яшчэ я
Сілай моладасці п’яны,

Ў вакне душы маёй
Праз моладасць яшчэ
Вітражы шматкалёрна пазвіваны.

*Вільня, 4.II.1930*

## Ідзе...

Ідзе здрадлівая...грудзі мне цісне,
Дрэвы шапочуць так ціха,
Так ціха...
Жоўцю цалуе зялёныя лісця
Шэрая восень так ціха.
Так ціха...
Я бачу яе лёдаватую ўсмешку,
Я чую яе лёдаватыя песні...
Сівер ёй марш перамогі спявае,
Раса спавівае зялёную сцежку.
З каханай дзяўчынай над возерам светлым
Ідзем і пустое гаворым, гаворым.
А час. Час ідзе непрыкметна.
Восень надходзе, восень на дворы...
Любая, колькі хацеў бы сказаць я...
Аднак усміхаемся ветліва толькі,
Дождж будзе... хмара цягне сівая...
Восень надходзе.
Срабрыстыя зоркі на небе іграюць
Адказнымі брызгамі.
Раніца хутка, на небе світае,
Зоркі падаюць светлыя
Нізкамі, нізкамі,
Недзе ў прасторах яны паміраюць
Рассыпаўшысь брызгамі.
Гляджу ў яе вочы. Бывайце здаровы.
Спакойна так здаецца —
Іншае ў сэрцы бунтуе.



Хоча выліцца ў словы...
На вуснах аднак замірае
І кажаш — бывайце здаровы!
Як смутна
Мяккімі, ліпкімі пальцамі
Восень зямлю абыймае так ціха.
Жаль толькі, нязнанае гора,
Як восень зямлю, так мяне агартае.
Нядаўна быў з ёю, здаецца, учора.
Восень цягне, час хутка мінае...
Я помню,
Як лодка на хвалях плыла памаленьку,
Быў вечар, месяц ўзыходзіў
І пахлі цудова так краскі...
Быў вечар апошні гарачага лета,
Бо восень надходзіла
Ціха,
Так ціха...
Я сэрцам адчуў зразу гэта.
І сёння дождж дробны,
Дождж надаедлівы
Звоніць па шыбах
Так нудна.
А я ўспамінаю пражытыя хвілі...
Каханне маё, каб ты знала,
Як сёння мне смутна
Так смутна...

## Ці любіш?..

Ці любіш ты свой край тугой спавіты,
Ці аддасі яму жыццё, як скажа — дай!
Ці любіш свой народ на крыж прыбіты?
Ці любіш ты свой край?
Ці любіш родныя прасторы нівы,

Ці шчыра любіш іх — сумленне запытай,
Ці любіш рэчку-ручаёк бурлівы,
Ці любіш ты свой край?
Ці любіш бор стары, садок зялёны,
Ці любіш ты, як ціха шапаціцца гай,
Старыя хаты, рад дахоў амшоны...
Ці любіш ты свой край?..
Ці любіш ты свой край на крыж прыбіты,
Ці шчыра любіш ты — сумленне запытай?..
Ці любіш край туманамі спавіты,
Наш беларускі край?..

*1930*

* * *

Ці памятаеш ты...
Вяснянай раніцы
Ружовы небасхіл,
Які з блакітнымі зліваўся нейк не смела —
І музыкі тады
Апошнія дзесь плакалі акорды,
Здаецца вальс тады ігралі...
Мы выйшлі ціха на паветра,
На камянёх абросшых мохам селі,
Паветра цветам яблыняў святлела
І ледзь даходзячы да нас
Акорды ціха паміралі.
Нас цішыня паволі агартала,
З’яўлялася задума...
Свой стройны стан прад намі
Пахіляў
Зялёна-ясны клён,
Над намі мур стары
Стаяў на стражы,
Вясна тады яшчэ была...



Зялёнай плынню дрэвы шапацелі,
Цудоўна пахнуў бэз.
А неба залацілі праменні першыя
Ўзыходзячага сонца.
Лёгкія, як сон,
Звіваліся чаргою хмаркі.
Вясна тады была...
Я перлы тваіх рук
Размроены бясконца цалаваў,
І быў шчаслівы
Усмешкаю тваіх
Пурпуравых, раскошных вуснаў.
Блескам тваіх вочаў...
Шасцеў штось ціха клён.
На небе золата ігралі пералівы,
І бэзу палкі віўся пах,
І шыбка так ішлі хвіліны.
Была тады вясна...
Ці памятаеш ты...
Бо я люблю ўспаміны.

*Вільня, 10.XI.1930*

* * *

Мы ў перамогу верым ўсе —
Яшчэ ніхто не змог ідэі —
Няхай наш край і ў палусне,
Час гэты палусон развее.
Ніхто не згубіць з нас надзеі,
З нас кожны сны сніць аб вясне,
Мы ў перамогу верым ўсе —
Яшчэ ніхто не змог ідэі.

* * *

Размроеным крокам
Ноч надыходзіць вясняная,
Кладзецца між беллю вішнянай.
Паветра запахам бэзу
Дрыжыць палуп’янае,
Дыша сілай кахання
Нязнанай
І думкі вагніста
Распенена нізкай зданняў.
Снуюць сны шаленства бясконца,
Гараць паўадкрытыя вусны
Цалункаў жаданнем,
Грэшных і палкіх,
Як сонца.
Звіваюцца роскашшу здання
Ночы вяснянае,
Сцелюцца разам з сумрокам,
Вось успыхнулі
Зоры цяністыя —
Ноч майская гэта
Надходзе
Размроеным крокам.

*Май 1930 г.*

* * *

Я выклікаю з будучыні вобраз твой,
Шукаючы крыніцы светлай веры,
Адпачываю ў ім з разбітаю душой,
У вясну змяняю дзень панура-шэры.
На цені слаўныя даўно мінулых дзён,
На цудны дзень срабрыстае Пагоні —
Прыйдзі, надходзячая Беларусь, як сон,



З’явіся мне імглой радзімых гоняў.
Бо дзіўны вобраз тых, што прыйдуць светлых дзён,
Бо вобраз Бацькаўшчыны маёй вольнай
Мне сілаў надае і веру будзіць ён
І ў песнях адбіваецца раздольных.

*Вільня, 1930*

## З рэстаранных матываў

Рэстаран:
Джаз-бэнд іграе
Гучна так,
Барабан
І кастаньеты
Выбіваюць такт.
Саксафон
Шалее, ўторыць,
Пяе ў тон.
Свісне гулкая сірэна
Вальс-бастон.
Нервы пружацца,
Шалее
Прудкі крові ток...
Нешта новае іграюць,
Рэзнулі факстрот.
Цудоўны танец йграюць ёмка
І скрыпка рвецца,
Выводзіць звонка
Факстрот... факстрот...
Цяпер іграюць ўсюды і заўсёды
Джымі і факстрот,
І чарлестон
Спявае скрыпка, кастаньеты,
Вые саксафон.

## Голас Нёмна
*(Балада з даўніх часоў)*

Гэй ты, Нёман-рака, ты пацеш бедака,
Скажы скуль твае коцяцца воды,
Што зрадзіла цябе, як жылося табе,
Як прайшлі твае цёмныя годы?..
Так на брэгу хлапец беларус-маладзец
Да сваёй рэчкі моцна гавора.
Рукі крыжам злажыў, галаву апусціў,
Відаць, меў ён вялікае гора.
Так ён доўга стаяў, сваю песню пяяў
І прасіў у Нёмана з слязамі,
Каб сказаў ён яму, хоць такі аднаму,
Як даўно нас завуць беларусамі.
Нёман ціха шумеў, быццам жыцця не меў,
Думаў думку сваю векавую.
І на гук малайца не сказаў ні слаўца,
А далей цягнуў песню старую.
Ахапіў хлопца жаль, звярнуў вочы у даль,
Куды воды ён нёс чарадою.
Яму гукнуў, як звон, каб пачуў тое ён,
Беларус, што загіне з душою.
Потым к рэчцы бяжыць, каб канец палажыць
Сваёй думцы, што ў Нёмна пытаўся:
Вочы моцна закрыў, валасы распусціў,
І ў вадзе са слязамі схаваўся.
Ускалыхнулась вада ад краёў аж да дна,
Прабудзіўся наш Нёман прасторны.
Падхапіў малайца — Беларусі хлапца,
І вынес яго ўверх на хвалі.
Доўга хвалі яго няслі аднаго,
Цалавалі, кідалі, як муху.
Пакуль жыццё яго не прыйшло да яго,
Пакуль ён не набраў сілы духа.



Потым ціха яго, улюбенца свайго,
Вынеслі на брэг палажылі.
Пацалунак яму, быццам сыну свайму,
На адходзе ласкава злажылі.
Хлапец доўга ляжаў і аб свеце не знаў,
І не чуў, як бурліў Нёман глуха.
Пакуль гукі яго не дайшлі да яго,
І не гукнулі: «Хлапец, ты паслухай».
Тады хлопец наш сеў, ўжо сілу ён меў,
Каб паслухаць, што Нёман гавора.
Каб пра тое ўсё, што прасіў ён яго,
Даведацца і забыцца пра гора.
Ты паслухай мяне, раскажу я табе,
Як даўно я нясу свае воды.
Для каго тут прыйшоў, як сюды я зыйшоў,
І якія тады былі годы.
Бо ты першы мяне пашукаў для сябе,
Сваім гукам, што гукнуў за мною.
Што быў чуцен на дне і прыемны ён мне:
Беларусь, што загіне з душою.
Гэта імя тваё ёсць святым для мяне,
Беларусі ты сынам назваўся.
Усе сыны яе адышлі ад яе,
Толькі ты яе не чужаўся.
Вось за гэта мяне пашукаў для сябе,
Ты за гэта не заліўся вадою,
А цяпер табе ўсё раскажу пра жыццё,
Й мой дух будзе заўжды з табою.
Было гэта даўно, калі жыццё плыло
Без бяды кайданоў і палонаў,
Калі ўвесь наш свет быў лясамі адзет
І не знаў ні сахі, ні баронаў.
Тады чалавек вольным шляхам хадзіў,
Быў падобны да птушкі-сокала.
Дзе хацеў, там пайшоў: ці ў лес, ці дамоў,

Усяго быў панам увокала.
Бо не было тады ні паноў, ні бяды,
Што б змушала яго працаваці.
Дрэва дома было, жыццё мёдам плыло,
І не трэба было бедаваці.
Калі ён ўжо старэў, калі ён дзяцей меў,
Толькі тады з бядой пазнаваўся.
Бо валокся у свет, шукаць дзецям кабет,
Дзеля гэта ён турбаваўся.
Вось адзін чалавек, дажываючы век,
З-пад Левантум валокся сюдою,
Меў траіх ён хлапцоў, усіх трох удальцоў,
Дзеля гэтых й пазнаўся з бядою.
Прывалокся сюды праз чатыры гады,
Калі вясна йшла чарадою,
Калі ўвесь наш свет быў у лісце адзет,
А птушкі плылі грамадою.
Калі наша зямля, як жытам чорна ралля
Цёплай восенню бывае пакрываецца,
Калі яе жыццё тхне даброцяй усё,
Быццам, ангел які ўсміхаецца.
Вось у такую пару ў гэтым нашым бару
Затрымаўся стары з малайцамі,
Каб сваю сілу ўзмацніць, надзею шчасця ўзбудзіць
Ды ісці далей са сваімі хлапцамі.
І вось маменты вясны, як ідэальныя сны,
Надта ім спадабаліся.
Што апошнія годы свае тут яны
Рашылі дажыць у іх. І яны засталіся.
Добра жылі яны між бароў тых адны,
Калі аб мэце яны забывалі.
Але сумна было, жыццё бурна плыло,
Калі аб жонках яны ўспаміналі.
Ані пекнасць вясны, ані ночныя сны
Бяды не маглі адагнаці.



Што мучыла яго, старога таго
І ён мусеў аб тым успамінаці.
У дзень маркотны ён быў, уначы месяц прасіў,
Бы дзяцей яго супакоіў.
Каб дзяўчатак для іх, для няшчасных такіх,
Ён паслаў і пацешыў яго.
Калі раз так стаяў, калі просьбу складаў,
Голас якісьці гукнуў вечавы.
Дубы затрасліся, вятры ўзняліся
І паўстаў хто жывы, нежывы.
Аб сынох не бядуй, сыну родны ты мой,
Табе раніцай будзе усё.
Тваім дзецям я сам жонак выберу, дам,
І пры іх сваё скончыш жыццё.
Зараз тут каля вас, як міне ночны час,
Будзе бегчы рэчка бурлівая,
На брэгу каля ёй, каля маткі сваёй
Будуць сядзець дзяўчаткі думлівыя.
То сяброўкі хлапцоў, тваіх, бацька, сыноў,
Краіне яны дадуць маладое жыццё.
Рака тая для вас будзе маткай ўвесь час,
Яна будзе даваць вам усё.
Я сам вам ускажу, шлях жыцця пакажу,
Каб раслі як дубы, ясакары,
І каб гэту сваю запаўнялі зямлю,
Каб было іх, як зоркаў ў прасторы.
Раптам сціхла ўсё і старое жыццё
Паплыло сваёю дарогай,
Толькі лес стаў шумець, вятры сталі гудзець,
Як бы было аб'яўленне Бога.
Цэлую ночку яны між бароў тых адны
Трасліся, усходу чакалі.
Каб хутчэй тое ім пабачыць самым,
Аб чым гукі якісьці гукалі.
Ўрэшце мілы наш дзень разагнаў цёмны цень,

І па куточках ўсюды развеяў,
Тады раптам усё ім адкрылась жыццё
І цэлая іхня надзея.
Вось, што той чалавек, дажываючы век,
Мне казаў пра бытнасць сваю.
А потым усяго быў я сведкам таго,
Што рабілася ў вашым краю.
Унізе перад імі я хвалямі сваімі
Жыў і нёсся чарадою.
Дрэвы каля мяне, што віталі мяне,
Таўпіліся цёмнай грамадою.
Каля самай вады на каменню тады,
Сядзелі ўбелі дзяўчыны,
На галоўках — вянкі з кветак, як ваганькі,
І з кветачкаў нашай маліны.
Што за радасць была, якое шчасце было
Тых хлапцоў і бацькі старога,
Не падобна сказаць, ані то ж апісаць,
Бо на гэта часу трэ многа.
Але вось што скажу, галоўны шлях пакажу,
Скуль ўзялося імя Беларусі.
Бо беларус пра жыццё, назоў так жа пра ўсё
Бацькаўшчыны сваёй ведаць мусіць.
А што ў белі яны сядзелі тады,
То і дзяцей сваіх белымі звалі.
Далей цэлы свій род, а потым й народ
Белай расы яны называлі.
З белай расы тае выйшлі бацькі твае
Радзімічамі іх называлі.
А другіх — крывічы, трэціх — дрыгавічы,
Як гісторыкі аб іх напісалі.
Але першы той род, скуль ідзе ваш народ,
Быў род белых.
Хаця людзі аб ім і не знаюць,
Але знак тых людзей перайшоў у вас самых —



І беларусамі ўсе называюць.
Раптам сціхла ўсё і старое жыццё
Паплыло сваёй чарадою,
Толькі хвалі яго гулі аднаго
І нясліся ў даль грамадою.

*1925*

## Машэка

Ціха ў даль Дняпро сіні коціцца,
Ў задуменейку не шамочыцца:
Па ім хвалі бягуць-завіваюцца,
Дый у мора яны ўсе спяшаюцца.
І зялёны бор расшумеўся, гудзе,
Ой, не добра ўкруг, хіба быць бядзе!
З лесу цёмнага, безбярэжнага
Выхадзіў з яго дый асілачак
Сам Машэка, бедакоў ён заступнічак,
Бо у тыя часы над зямелькаю,
Над крывіцкаю, над старэнькаю
Багачы і баяры разгулівалі,
Як бярозу сялян дый аблупплівалі,
Што рабіць бедакам — пакараліся,
А баяры з усіх насміхаліся.
А Машэка ў той час сам артайнічаў,
І зямельку-сыру паварачываў,
Засяваў і збіраў хлеба ўволячку
Дый не змог ён глядзець на нядолечку,
На баяраў ліхіх, на разбойнікаў.
І пачаў ён збіраці ахвотнікаў.
У прасторы глухія, агромныя
І адтуль ён баяраў навучываў
І людзей паважаці прывучываў,
Харомы іх палацы разбіваючы
І братоў сваіх дый баронячы.

Але ў сэрца яго запаўзла туга,
Ой, Машэка ты, дый сялян слуга,
Іх слуга, ты мур, іх заступнічак
І народу свайго ты асілачак,
І на што ты яе чарнабровую,
І на што ты яе урадзівую,
За правы дый за праўду ваюючы,
Што бяду яна дый тугу табе
Дасць, не глянуўшы, узамен сябе...
І выходзіў Машэка на Дняпро-раку,
Палажыў на мячу ён асілак-руку:
І ўзабраўся Дняпро, зашумеў яму,
Словы ласкавы зашаптаў яму,
А Машэка сам адазваўся-сказаў,
Да старога Дняпра такі сказ трымаў:
„Эх, Дняпро, ты Дняпро, рака вольная,
Не такая, як мы, ты бяздольная.
На сабе ты нясеш шмат багацейка,
Але што табе, мілы брацейка.
Я паскарджуся — раскажу табе,
Аб сваёй тузе, аб сваёй жальбе.
Маё сэрцайка прывязалася,
У красуню яно закахалася,
І яна мяне дык пакінула
І баярына дый нямілага
Пакахала дзяўчына, аддалася,
У царкве яна з ім павянчалася.
Чуеш, стары Дняпро, як званочкі звіняць,
Маладыя ўжо ад вянца ляцяць,
Як званочкі звіняць, пералівамі,
Як над борам гудзяць, дый над нівамі.
Адбяру я яе, мусіць быці ў мяне,
А ня згодзіцца — яе смерць не міне».
І пабег у лес дый Машэка сам,
І малойчыкаў дый склікаў ён там.



А Дняпро-рака дый ўзбурлілася —
Па ім хваля ўраз завіхрылася.
І зялёны бор расшумеўся — гудзе,
Ой, не добра ўкруг, хіба быць бядзе.
Ні па возеры селязенька плывець,
А баярыч сам сваю жонку вязець,
Дый не цёмная хмара па небе ідзець,
А Машэка сам малайцоў вядзець.
Калі гойкнулі, калі крыкнулі!
І не буйны вятры з неба веялі,
І не дробны дождж з неба падае,
А Машэка баярыча забівае ў бары.
Распускае сваіх ён малойчыкаў,
Сваіх добрых сяброў і памочнікаў.
І дзяўчыну ён сам у стан вядзе —
Ой, не добра ўкруг, хіба быць бядзе.
А красуня сама прыгалубілася,
Да Машэкі яна прытулілася,
Кажа: „Сілай мяне, дый баяравіч
Да вянца пацягнуў, не пытаючы,
Я ж кахаю цябе, мой асілачак,
Абарона мая, мой заступнічак».
Цалаваў ён яе ў вочы-зоранькі,
Дый у грудзі яе лебядзіныя,
Абыймаў ён дзяўчыну-малодачку
І туліў ён яе, ясну зорачку.
І забыўся ўвесь свет пра каханае,
Дый ад ворага адабранае.
Не зязюлька кукавала ў бары,
Толькі зразу павеялі буйнай сілы вятры,
Пацямнела ў вачах у Машэкі ўраз:
Ой, доля-ліха, ой благі жа ты час,
Яго мілая, дый ласкаючы,
Прытуляючыся, абыймаючы,
Усадзіла яму ў буйна сэрцайка нож...

І упаў на зямлю ён ўміраючы,
Уміраючы, заціхаючы...
Узыграўся Дняпро, зашумеў стары,
Забурліла вада, узняліся вятры,
Засталісь бедакі без заступніка,
Без заступніка, без даглядчыка.
...Закапалі яго у зямелечку,
Закапалі яго — сваю сілачку,
Пахавалі яго, курган ўзносячы,
І Машэку свайго дый шануючы,
Магілаю Льва называлі курган,
Яны плачучы, прычытаючы...
Над магілаю, над асілкаваю
Удалыя яго, дый малойчыкі
Будаваліся,
Магілёвам сядзібы іх
Называліся.

*1927*

## З казак ночы

*Прысвячаю В. Я.*

Цьмяна месячык ірдзіцца,
Ужо ночка-чараўніца
Праляцела па-над светам,
Зоры ззяюць агняцветам.
Рассяваюць блеск таёмны,
Блеск няпэўны, блеск стамлёны,
Спавіваючы узоры,
Заглядаюцца ў азёры.
Ціха ночка казкі бае,
Сны аб шчасці навявае,
Поўна нейкай цуднай ласкі
Ночка бае праўды казкі.



Між вялікіх двух азёраў,
У праменнях паміж зораў,
Зоры ў просіні прастораў,
Зоры ў глыбіні азёраў.
Стары замак прытуліўся,
З вежы стройнай дах зваліўся.
Мохам параслі камені,
Сцены гнуцца ў задуменні...
Будавалі іх для пана
Мазалём, крывёю хама.
Тут былі калісь байніцы, —
Гэта сцены ад вязніцы.
Тутка людзі паміралі,
Сонца — радасці не зналі,
Ў ланцугах, у паняверцы,
Паміралі з жалем ў сэрцы.
Дух бунтарны, непакорны
Гінуў ў гэтай яме чорнай,
Помсту зваў напоў самлелы,
Гінуў горды, гінуў смелы.
Ў гэтай вось вялікай залі
Шумна, гучна так гулялі.
А цяпер?.. Чаму маўчанне
І жыцця няма паўзвання.
Назіраюць толькі клёны
Ў даль так сумна — задумлёны...
Сум ўсё чыста спавівае,
Ночка ціха казкі бае.

На стройнае вежы руіны,
Ледзь месячык скіне прамень,
Выходзіць з вязніцы дзяўчына,
Ці толькі яе, хіба, цень.
Выходзіць на бераг маўкліва,
Як лёгкая хмарка плыве.
Галоўку схіліўшы маўкліва,

Распушчаны косы яе.
Абыйдзе навокала сцены —
І рукі заломіць свае,
Ўпадзе на зямлю, на калені,
Замрэ ў бесканечнай жальбе.
Падымецца, сумна так гляне,
Па беразе лёгка снуе.
Ідзе, аглянецца, зноў стане,
І ціхую песню пяе.
Адазвіся, любы Янка,
Дзе ты, адкажы!..
Ці не чуеш — кліча Ганка,
Яначка, скажы.
Адазвіся, я чакаю
Ў ночанькі цішы.
Тутка, каля башты скраю,
Любы, адкажы!..
Не, няма, пашто чаканне,
Не прыйдзе больш ён,
Навакол лягло маўчанне,
Акружыў ўсё сон.
А калісьці так бывала,
Прыбяжыць сюды,
Я яго ужо чакала,
Сядзем ля вады.
Ён тады мяне цалуе,
Моцна абыйме.
Залюляе, загалубе,
Казкі бае мне.
Летуцелі мы аб волі,
Аб лепшым быцці,
Летуцелі мы аб долі,
Супольным жыцці.
Цалаваў мяне, як п'яны,
Зоркай называў.



Сваёй зоранькай святлянай —
Шчыра ён кахаў.
Як шчаслівымі бывалі
Мы у гэты час.
Гэтак хутка праміналі
Ночанькі для нас.
Дый не здзейсніліся мары,
Разышліся мы.
Гора-горанька ліхое,
Дзе ж вы, нашы сны?..
Людзі шчасце нам разбілі,
Людзі давялі:
Шчасце мы знайшлі ў магіле,
У сырой зямлі.
Я тады у пана ў замку
Тутка вось жыла,
Працавала безустанку,
Служкаю была.
Ён прыгоннікам у пана
Цяжка працаваў,
Поле панскае ад рана
Сожкаю араў.
Пан ліхі у нас удаўся,
Помню, як цяпер,
Абы што такое, дык расправа,
Быў дзікі, як звер.
Закатуе да паўсмерці,
Літасці не знаў,
Скуру кажа табе здзерці,
Ў гэты склеп саджаў.
І тады аб волі думку
Лепей пакідай,
Не было ужо ратунку,
Тут і памірай.
Вось аднойчы надта рана,

Прыйшлі па мяне,
І паклікалі да пана, —
Ліха не міне.
Чула сэрцайка ліхое,
Што ж рабіць, пайшла,
Там загінулі ўсе мроі,
Згубу там знайшла.
Кажа — ну, шыкуйся, Ганна,
Хоча аканом
Цябе ўзяць сабе за жонку,
Ажаню паўднём.
Я адразу скамянела,
Што ж сказаць знайду,
А пасля кажу ўжо смела:
«Я за Янку йду,
За распусніка старога
Не хачу ісці,
А калі тудой дарога,
Смерць ляпей знайсці.
«Гэта так, дык ты не хочаш!» —
З сыкам працягнуў,
Заблішчэлі злосна вочы...
І мяне папхнуў.
Я упала, залілася
Горкімі слязьмі,
Біў мяне, аж я вілася
Па сырой зямлі.
А пасля ў вязніцу гэту
Ўкінуў мяне,
Пан сказаў — не ўбача свету,
Тутка і памрэ.
Цела ныла і балела...
Цёмна, сыра, ціш...
Недзе нешта зашуршэла,
Запішчала мыш.



Я рукою мімаволі
Ўзяла паясок,
Задрыжэла, як ніколі,
Там ў сцяне кручок...
Зачапіла. Ў пятлю шыю —
І канец бядзе,
Сцены глянулі нямыя
І няма мяне.
Янка толькі, як дазнаўся
Аб смерці маёй,
Спачатку аж скалыхнуўся,
Стаўся, як не свой.
А пасля твар спахмурнелы
Стаўся нібы сталь,
Заглядзеўся сокал смела,
Заглядзеўся ў даль.
Ночка цемрай ахінула
Нябёсаў прастор,
Ў замку чыста ўсё паснула,
Шумеў стары бор.
Толькі раптам каля брамы
Бліснулі агні —
Ў полымі, у клубах дыму
Стаялі дамы...
Мук, знявагаў і пакуты
Гінула гняздо,
Гняздо крыўды, здзекаў лютых,
Палала яно.
Янка сам з сваёй сякерай
Пана наганяў,
Ў галаву яму намерыў,
Раз... І пан упаў.
Не паспелі расплаціцца,
Войска надышло,
З войскам кінуліся біцца

Цяжка ім было.
Выбух гневу задушылі,
Здушылі праклён...
Шмат парэзалі, пабілі,
Шмат ўзялі ў палон.
Шыбеніцу збудавалі
Тутка ля сцяны,
Янку маяго прыгналі,
Ён быў ледзь жывы.
Згінуў Янка і ўсе тыя,
Што яшчэ жылі,
Маладыя-удалыя,
Хлопцы-бунтары.
З той пары ніхто не гляне
Сюды да мяне,
Толькі, ночка як настане
Месячык зірне.
Я тады сюдой выходжу
З прадвечнае цьмы,
Песню сумную заводжу...
Дзе ж вы, нашы сны? —
Так скаргу, аповесць спявае,
Па берагу стромкім ідзе,
А месячык ясны кідае
Шлях срэбны па цёмнай вадзе.
Вось зноў акружыла руіну,
Як лёгкая хмарка, плыве,
Вось гіне, няма і ўспаміну,
Няма нават следу яе.
Цьмяна месячык ірдзіцца,
Гэта ночка-чараўніца
Блеск няпэўны рассявае,
Ціха праўды казкі бае.
Гасне ціха блеск таёмны,
Цуднай ночкі блеск стамлёны,



Спавічаючы узоры,
Гаснуць дыяменты-зоры.
Там на ўсходзе штось ірдзіцца,
Ужо ночка-чараўніца
Ў край далёкі адлятае,
Адлятае, казкі бае...
Там іскрыцца, там ірдзіцца,
Адляцела чараўніца,
Чырвань сонца выплывае,
Казкі іншыя дзень бае.

*Вільня, 1927*

# Князёўна
*(Казка ў двух актах)*

## Асобы

П е р ш а я  в е д з ь м а.
Д р у г а я  в е д з ь м а.
Р ы ц а р.
Н я в о л ь н і к і.
С я л я н е.
Х о х л і к і.
Р у с а л к і.
Н я ч ы с ц і к і.

## Адслона першая

Балота-дрыгва, якая зарасла густой лазой. Навокал адвечны бор. Цьмяна свеціць праз хмары месяц. У траве бліскаюць сінія вогнікі.

### *З'ява першая*

Дзве  в е д з ь м ы  выходзяць з гушчыні.

П е р ш а я  в е д з ь м а

Эх, што за ночка! Люблю такі час!
Сягоння нам свята. Тут зробім папас,
Тут загуляем паскачам якраз...

Здалёк, быццам з-пад зямлі, чуваць енкі і дзікі рогат роспачы. Усё выліваецца ў нейкую дзікую, шалёную мелодыю.

Ага! Ўжо і музыка грае для нас.

Ведзьмы садзяцца каля лазы, адна супраць другой.



Д р у г а я  в е д з ь м а

Добра заводзяць, мне мілы іх крык,
Люблю гэта слухаць, люблю дзікі зык.
Ну, што ж, павялося нам, праўда, кума?

П е р ш а я  в е д з ь м а

Дый што гаварыці, я знаю сама!
Ўсё ж дзікія думкі у гэтых людзёў,
Яны за князёўну гатовы ліць кроў,
Гатовы змагацца, а сілы у іх
Хапіць ці магло бы проці чараў маіх.
Князёўна іх спіць, гэта каменны сон,
Вякамі, гадамі утрываліўся ён.

Д р у г а я  в е д з ь м а

Ха-ха, што за мова! Яе не збудзіць,
Пакуль мы, сястрыца, з табой будзем жыць.

П е р ш а я  в е д з ь м а

Вось, рыцар адзін толькі страшны для нас,
Ён можа прыспешыць прабуджання час.
То тут, то ён там у паветры мігне,
Адразу нейк жудасна робіцца мне.
Ён бой супраць нас бязлітосны вядзе.

Д р у г а я  в е д з ь м а

Э, што гаварыці аб гэтай бядзе!
Лавай лепш наварымо сокаў густых,
З траваў чароўных і зёлкаў лясных.

Устаюць.

П е р ш а я  в е д з ь м а

Гэй, хохлікі! Хутка збірайце галлё,
Нясеце, кладзеце, я зладжу зяллё...

### *З'ява другая*

З лесу выбягаюць тры х о х л і к і, нясучы ахапкі сухіх галін і складаюць вогнішча. Адзін з іх падае ведзьме невялікі кацялок з вадой. В е д з ь м а выцягвае з-за пазухі і сыпле ў яго зёлкі. Хохлікі ладзяць трыножак з сукоў.

Д р у г а я в е д з ь м а

Ну, вогнік, раз-два, разгарыся хутчэй,
Ўздымайся. Успыхні, паліся ясней!

Успыхвае агонь. Ведзьма вешае над ім кацялок.

Чакай жа, сястрыца, пільнуй тут агню,
Я ж з імі пайду туды, ў лес, ў глыбіню.

Другая ведзьма выходзіць разам з хохлікамі.

### *З'ява трэцяя*

П е р ш а я в е д з ь м а садзіцца ля вогнішча.

П е р ш а я в е д з ь м а

Ха-ха, вось ізноў будзе добра зусім.
Сябе мы пакажам ўсяму і усім,
Калі і разбудзіць іх рыцар ад сну,
Няўдасца спаткаць ім збуджэння вясну.
Пачнецца між імі змаганне, грызня,
А гэта і будзе для волі матня,
Каб толькі яны не згадзіліся ўраз,
Было бы, ой, выгадна й добра для нас.

*(Хвіліну сядзіць ціха.)*

Гм! Але кума за мяне нейк хітрэй,
Яна пры падзеле дастала балей.
А то, толькі маю кавалкі-рыззё,
Пярсцёнак ізноў падзялілі наўкол —
Было б надта добра...



Падымаючыся
Ага, ўжо й кума,
Што ж гэта сягоння злавіла яна!

### *З'ява чацвёртая*

Пачынае ісці д р у г а я в е д з ь м а. На руках у яе акручаны гады, на адным і другім плячы сядзяць два кажаны.

П е р ш а я в е д з ь м а

Ужо вар гатоў. Спярша гадаў пашлём,
Паўзуць хай, працуюць і ноччу, і днём.

*(Бярэ галіну, мочыць яе ў кацялку і пырскае гадаў, абвітых каля рук другой ведзьмы.)*

Паўзеце ж ў нявольнікаў гушчу, сябры,
І пільна працуйце да самай зары.
Усюды ўкруцецесь, праслухайце ўсё,
За нашу справу лажэце жыццё,
Шыпіце салодка і сейце разлад,
Каб біліся ўсе і каб брата біў брат!
Калі ж хто пачне штось сапраўды рабіць,
Патрэба яго вам збіць з толку, абвіць,
Абвіць, задушыць вольнай думкі парыў,
Забіце яго, не патрэбна, каб жыў!

Другая ведзьма пускае гадаў на зямлю, яны адпаўзаюць у лес.

Д р у г а я в е д з ь м а

Паўзеце ж хутчэй, вы ў мяне малайцы,
З імі нам трэба звясці ўсе канцы,
Цяпер кажаноў трэба выслаць, сястра,
Для іх ночка чорная — працы пара.
П е р ш а я в е д з ь м а

*(Падыходзіць да другой ведзьмы, бярэ кажаноў, садзіць аднаго на плячо, другога бярэ ў рукі і так сама, як гадаў, пырскае зеллем.)*

Ляці, гэй, ляці, ты мой дружа, кажан,
Навокал усіх рассявай ймглу-туман,
Смакчы іх заўсёды, цягні сокі-кроў,
Смакчы, навадзі ім кашмар дзікіх сноў.
Хай чуюць бяссілле сваё супраць нас,
Хай знаюць, што волі агонь для іх згас,
Не трэба, каб сілу пачулі яны!
Іх трэба чмуціць, ім патрэба маны.
Сок гэтых зёлаў, вам пэўна паможа,
Збяссіліць, звясці іх сярод раздарожжа,
Гэта твой сябра, табе ў дапамогу.
Ляцеце ж, ляцеце, смялей, у дарогу!

*(Здымае другога кажана з пляча і пускае абодвух.)*

Ведзьмы застаюцца. Вогнішча гарыць. Першая ведзьма ходзіць, другая садзіцца.

Д р у г а я  в е д з ь м а

Хай смокчуць іх кроў, дык няхай жа цярпяць,
Калі ім хацелась Князёўну збаўляць.
А... а... што гэта?

Чуваць шум, з лесу відаць яснасць.

...Рыцар імкнецца сюды,
Яшчэ не было якой ліха-бяды.



***З'ява пятая***

З лесу выязджае  Р ы ц а р  у сярэбранай зброі на прыгожым белым кані. Зброя свецiцца нейкім таемным бляскам. Пабачыўшы  в е д з ь м а ў, Рыцар спыняецца.

П е р ш а я  в е д з ь м а *(кідаючыся на рыцара)*

Здушу я праклятага, знішчу, самну.

Д р у г а я  в е д з ь м а (*утрымліваючы яе)*

Чакай, не чапай, ці ж што зробіш яму?
Ён памкнецца, як вецер, і згіне, як дым,
Нічога не зробіць і чарам тваім.

П е р ш а я  в е д з ь м а *(спыняючыся)*

Пракляты хай будзе...

Д р у г а я  в е д з ь м а

Э! Кінь ты яго,
Па што тут клясціся, было бы каго?

Р ы ц а р

Ўжо блізка світанне, праклятыя зморы,
Народ ужо рушыць, як хвалі на моры,
Чакае ён толькі Князёўны збуджэння,
Тады ужо скончыцца наша цярпенне.

Д р у г а я  в е д з ь м а

Ха-ха... ён верыць, што ўстане Князёўна!
Дык вер жа, дык вер, бо для нас усё роўна!
Вось толькі ці прыйдзецца вам дачакаць,
Ці прыйдзецца гэтае шчасце спаткаць?

Р ы ц а р

Так, веру і буду верыць да скону!
Народ ўвесь пачуе водгалас звону,
Звону, ў які я ўдару магутна,
І так ўжо ўдару, што будзе ўсім чутна.
Народ мой спавіты у вашыя сеці,
Забыўся аб ўсім ён, забыўся аб свеце,
З Князёўнай заснуў ён, з ёй толькі паўстане,
З ёй толькі вольным і слаўным ён стане.
Я — сын вольных ветраў і сілу іх маю,
Я з імі нашуся па нашаму краю.
І слаўнай мінуўшчыны маю я шчыт,
Ўвесь прошлае славы ён блескам спавіт.
Яснае сонца мне справіла зброю,
І смела я стану да слаўнага бою.
Я зброяй магутнай шляхі адчыняю,
У сэрцы маім няма месца адчаю.
Не знаю раздумы, не знаю цярпення,
Я маю адно, мне святое, імкненне.
Прайду з ім адважна цярністы свой шлях,
Горда і думна трымаючы сцяг.
Цяпер шмат не чуе яшчэ мае словы,
Гукі забыўшыся роднае мовы.
І смех вызывае заклік да змагання,
Да лучнасці братняй, да моцы яднання.
Блудныя дзеці! Вас гады скруцілі,
Здаровую думку у вас атруцілі...
Але вам у сэрца мячом я удару,
Адсуну праклятую згубу і мару.
Цемру-туман янапэўна развею,
Ўскрашу абуджэння Князёўны ідэю.
Ідэю, што свеціць, гарыць светазарна,
І праца мая не пойдзе нам марна.
Усё для Князёўны! — вось кліч наш святы!
І з ім пераможамо мы заўсягды!



*(Падымаючы каня на дыбы.)*

Я веру, я веру — ідуць ужо хмары:
Паўстануць, прачнуцца волі ахвяры!

*(Выязджае ў бор.)*

### *З’ява шостая*

В е д з ь м ы адны, стаяць у нейкай задуме.

П е р ш а я в е д з ь м а

Ён нешта прароча, аб нейкае змене.

Д р у г а я в е д з ь м а

Э... глупства, кума, мы трымаем іх ў жмені.
Князёўне не ўстаць ўжо ніколі, ніколі!

П е р ш а я в е д з ь м а

Усё ж такі робіцца страх мімаволі,
Каб, толькі, вось рыцар яе не збудзіў.

Д р у г а я в е д з ь м а

Але ж ці хопіць яму столькі сіл?

Змаўкаюць, углядаюцца ў вогнішча.

Э, думаць яшчэ! Лепш зрабімо шабаш...

П е р ш а я в е д з ь м а

Рацыю маеш, праўду ты кажаш,
Давай загуляем, давай жа, хутчэй,
Як вып’ем крыві іх, нам будзе лягчэй.

Д р у г а я в е д з ь м а *(крычыць)*

Гэй, браце лясун, ці ты чуеш стары?
Нячысцікаў ўсіх ты сваіх нам збяры!

### *З’ява сёмая*

Выбягаюць некалькі н я ч ы с ц і к а ў, прысядаючы і робячы нізкія паклоны.

П е р ш а я в е д з ь м а

Нявольніцаў борзда прывесці сюды,
Мы крыху гульнём, вось так проста, з нуды.
Дый музыку зладзьце і толькі ўсяго,
Прыдумаем потым яшчэ мо чаго.

Нячысцікі знікаюць.

### *З’ява восьмая*

Д р у г а я в е д з ь м а *(крычыць ім услед)*

Хутчэй жа вяртайцеся, эй, вы, хутчэй!

*(Да першае ведзьмы.)*

Дык што ж? Загуляем, як можна гучней.

П е р ш а я в е д з ь м а

Страшэнна люблю я глядзець на іх твар,
Збляднеўшы і змучаны роямі мар.
Люблю я іх енкі, люблю дзікі смех,
Бяссілле і мука дае шмат пацех.

Здалёк чуваць гоман.

Д р у г а я в е д з ь м а

Ага! Чую шум, ўжо, здаецца, вядуць,
Прыемна нам будзе на іх пазірнуць.



### *З’ява дзявятая*

З лесу выходзіць грамада л ю д з е й. Рукі іх моцна пераплецены. Твары выглядаюць страшэнна шэрыя, пакрываўленыя, апрануты яны ў нейкае шмаццё. Н я ч ы с ц і к і падганяюць іх трасцінкамі.

А д з і н з н я ч ы с ц і к а ў

Ну, тут укладвайцеся, шэльмы, у рад!

*(Да першае ведзьмы.)*

Яшчэ можа маеш які ты загад?

П е р ш а я в е д з ь м а *(паказваючы на двух нячысцікаў)*

Хай гэтыя зараз жа пойдуць дахаты
І прынясуць нам Князёўны шаты.

А д з і н з н я ч ы с ц і к а ў

Зараз жа ў момант, тут будзем...

*(Выходзіць.)*

Д р у г а я в е д з ь м а *(да тых, хто застаўся)*

...Цяпер
Прыводзьце у справу вясёлы замер.

А д з і н з н я ч ы с ц і к а ў *(да людзей, паказваючы ім)*

Вось гэтак, кладзецесь, адзін прад адным...

Тыя стаяць.

Ну, будзьце ж паслушныя словам маім,
А то будзе горш...

Людзі са стогнамі пачынаюць класціся...

А д з і н  н я в о л ь н і к *(кідаючыся ведзьме ў ногі)*

Я вас заклінаю!
Зменшыце нам мукі, ад болю, адчаю
Месца няма нам, мы думаць няздольны,
Згодзен служыць вам народ, калісь вольны.
Што разам з Князёўнай загінула сіла,
Сіла і Дух наш загінулі дзесьці,
Хоць літасці дайце нам, дайце нарэшце.

Першая ведзьма піхае яго нагой, той падае і адпаўзае да ляжачай грамады.

П е р ш а я  в е д з ь м а

Ха-ха... ідзі проч і спакойна ляжы...

*(Убачыўшы аднаго нявольніка, які яшчэ не лёг.)*

А гэты чаго там стаіць? Ты, кажы!

Н я в о л ь н і к *(гледзячы на яе з пагардай)*

Я вольны душой, я табе ні слуга,
Можаш мяне катаваць, як мага.
Я горды у нашай бядзе, у бяздоллі,
Прасіць злітавацца не стану ніколі!
Легчы пад ногі табе не згаджуся,
Біце мяне, я ў сабе сам замкнуся!
Пагарда таму, хто свой гонар забыў,
Пагарда таму, хто каго з вас прасіў.

П е р ш а я  в е д з ь м а

Ты так?.. Надта добра!

*(Да нячысцікаў.)*

...Яшчэ больш вужакаў.
Цясней скруціце, каб ажно заплакаў.



І літасці будзе, ўючыся, прасіць,
Там, пры сасне, няхай ён павісіць,
Дый вугалькоў яму дайце пад ногі,
Мы пачынаем свае перамогі.

Нячысцікі хапаюць яго і вужакі прыкручваюць да тоўстай сасны. А потым нячысцікі бяруць з вогнішча вуглі і сыплюць яму пад ногі.

### *З'ява дзясятая*

З'яўляюцца пасланыя н я ч ы с ц і к і, адзін з іх нясе дзве багатыя вопраткі, другі — тацу з залатымі чаркамі. Першы рассцілае прыгожую тканіну на складзеных у рад паўтрупах. В е д з ь м ы з задавальненнем сядаюць на імправізаваным памосце. Каля іх стаіць пара чарцей з тацай. Пачынаецца музыка ў шалёным тэмпе.

Д р у г а я  в е д з ь м а

Гэй, хохлікі, дайце нам хутка віно,
Кіпіць, хай бурліць, няхай паліць яно.

Выбягаюць хохлікі, нясучы вялікі коўш. Ён поўны нейкім палаючым плынам, які і наліваюць у чары. Ведзьмы з задавальненнем п'юць.

П е р ш а я  в е д з ь м а

Яшчэ мне, яшчэ, я ўжо чую жыццё,
У жылах маіх закіпае чуццё.

Нячысцікі круцяцца каля ведзьмаў.

А д з і н  з  н я ч ы с ц і к а ў *(падсядае да першай ведзьмы)*

Кума, мая мілая, лапу мне дай,
Пры табе я забуду згублены рай;
Дай лапку хутчэй, я хачу цалаваць...

П е р ш а я   в е д з ь м а *(са смехам)*

Ідзі проч, бо можаш у зубы дастаць.

Н я ч ы с ц і к

Разводзячы рукі.
Клянуся рагамі, клянуся хвастом,
Клянуся смалою і нат капытом,
Кахаю цябе... і твой гак, а не нос.

*(Абдымае ведзьму.)*

Ведзьма б’е яго ў зубы.

*(Адскочыў ад яе.)*

Ці хочаш мяне ты давесці да слёз!
Кахаю цябе... а тут раз табе ў твар...
Кума! Маю кроў п’е кахання камар...

П е р ш а я   в е д з ь м а

Э, досыць ужо, бо дакучыла мне
Слухаць залёты дурныя твае.

Д р у г а я   в е д з ь м а

Русалкаў сюды, хай вядуць карагод,
Укруг нас заводзяць хай танцы і лёт.

### *З’ява адзінаццатая*

З лесу выбягае чарада р у с а л а к, узяўшыся за рукі. З шалёнай шыбкасцю пачынаецца карагод вакол в е д з ь м а ў. Часам карагод рвецца і заплятаецца вакол сасны, каля якой вісіць самлеўшы х л о п е ц.

Р у с а л к і *(спяваюць)*

Мы русалкі, духі ночы,
Дзеці возераў, балот.



Круцім, ўемся у прасторы —
Мы не бачым перашкод.
Асака нам шэпча казкі,
Мы калышамся ў лазе,
Мы не ведаем аб горы,
Мы не чулі аб тузе.
Лёгка хваля нас падхопіць,
Панясе у глыбіню.
Там крыштальныя палацы,
Там праводзім дзень па дню.
З рыбкай срэбнаю гуляем,
На ўздагонкі з ёй плывём.
Вадзянік нам бае казкі,
Так праходзіць дзень за днём.
Зноў ўсплываем на паверхню,
З ліліяў вяночкі ўем.
Свае песні мы заводзім,
Аб жыцці сваім пяем.
З лесуном мы пажартуем,
Наламаем мы бяроз.
Абальём яго старога
Брыллянцістай вадой рос.
Ён пагоніцца за намі,
Мы ўзлятаем ў вышыню,
Хай стары вось пазлуецца —
Ён кахае цішыню.
Зарагочам мы вясёла,
Ўторыць нам зялёны лес.
Кожны любіць весяліцца,
Нам ніхто не йдзе ў разрэз.
Мы людзей не разумеем,
Іх жыццё адзіны сум.
Вечна нечага шукаюць,
Вечна поўны нейкіх дум.
Ў летуценнях, у тумане

Борзда іх праходзіць век.
Ў нейкім шуме, у змаганні,
Жыве дзіўны чалавек.
Жыць часіну і то марна?
Трэба жыць і ўсім жыццём:
Закруціцца, ўсё забыцца
Так вось, як і мы жывём.
Дый што ж думаць, мы ж не можам,
Ні ў чым ім дапамогч.
Гэй! Шалёна лепш закруцім,
Борзда кончыцца ўжо ноч.

Песня змаўкае, але русалкі па-ранейшаму водзяць карагод.

П е р ш а я в е д з ь м а

Болей не стрываю, хачу я скакаць,
Давайце жа, кума...

Д р у г а я в е д з ь м а

Ну, дык што ж чакаць!

Ведзьмы пачынаюць дзікі танец у карагодзе русалак. Праз нейкі час спыняюцца і зусім перастаюць, калі русалкі разарваўшы карагод знікаюць у лесе.

П е р ш а я в е д з ь м а *(прыглядаецца да ледзьве жывога хлопца, які прывязаны да сасны)*

Ага! Ён самлеў, яго трэба чуціць.

Д р у г а я в е д з ь м а

Дый чым жа, скажы, што патрэбна схапіць.

П е р ш а я в е д з ь м а

Вось з вогнішча можам узяць галаўню,
Здаецца, ў ёй знойдзем йшчэ крыху агню.



Другая ведзьма бярэ галаўню, дзьмухае ў яе. Ляцяць іскры. Нячысцікі прыглядаюцца.

Д р у г а я в е д з ь м а

Цяпер напішам яму запытанне,
Ці з намі зможа ён весці змаганне?

Першая ведзьма зрывае ў яго з грудзей шмаццё. Другая ведзьма па жывым целе вядзе распаленай галаўнёй. Хлопец расплюшчвае вочы.

Х л о п е ц

Ага! Ужо бачу канец мой падходзе,
Бывай! Мой загнаны й бедны народзе!
Князёўна! З няволяю я не ўжыўся,
Помні, што сын твой, памёр — не скарыўся.
Помні...

*(Змаўкае.)*

П е р ш а я в е д з ь м а

Ха-ха... кінь ты вугаль! Ўжо па ім!

*(Кідаючы галаўню.)*

Д р у г а я в е д з ь м а

А змоўкнуў такі, прапяяўшы ёй гімн.

*(Аглядаецца.)*

Хмары гусцей неяк неба пакрылі,
Дождж можа лінуць у кожнае хвілі,
Хіба ўжо пойдзем... а і праўду ідзём.

П е р ш а я в е д з ь м а *(бярэ вопратку князёўны)*

Гэтае шмаццё з сабою вазьмём.

Д р у г а я   в е д з ь м а

Чакай. Знаеш ты што? Аддай мне абое,
Адно без другога, ні гэта, ні тое.

П е р ш а я   в е д з ь м а

Ого! Шмат ты хочаш, а што ж тады мне?
Гаворыць, як быццам у неякім сне!

Д р у г а я   в е д з ь м а

Папраўдзе кажу, мне суцэльнасць давай!

П е р ш а я   в е д з ь м а

Ну-ну, пагаворым яшчэ, пачакай...

Другая ведзьма хапае яе за рукі, тузаюцца.

Д р у г а я   в е д з ь м а

Як так даць не хочаш, дык сілай вазьму!

П е р ш а я   в е д з ь м а

Праклятая!..

Д р у г а я   в е д з ь м а

Не, я цябе самну.

Бліскае маланка. Б'е пярун. Ведзьмы таўкуцца. Няволькікі, нячысцікі і хохлікі ўцякаюць. Хто куды... Пярун працягвае біць. З лесу выязджае р ы ц а р. Спыняецца. Глядзіць, як таўкуцца ведзьмы.

Р ы ц а р

Доўга ж чакалі мы гэтай хвіліны,
Як расіцы, засохшы, чакаюць расліны.
Ў супольным змаганні вы сілу згубілі,
І гэтым Князёўну вы нам абудзілі.



Згінулі ў момант вашыя чары,
Як гінуць пры сонцы ночныя мары.
Мы дачакаліcь, прыйшлі ужо хмары,
І зараз паўстануць вашы ахвяры.
Бо наша Князёўна праснулась, не спіць,
Мы разам усе пойдзем яе бараніць.

Б'е трэці пярун. Рыцар ад'язджае. Ведзьмы змагаюцца, тузаючыся на зямлі.

## Адслона другая

Шырокае, стоптанае поле. Праз яго бяжыць гасцінец. У далечыні — цёмны бор. Каля бору відаць контуры хатак. Неба хмурнае. Пры гасцінцы кузня з адчыненымі дзвярыма, падобная на нейкую трохсценку.

### *З'ява першая*

У кузні працуе каваль — прыстойны хлапец, які раздувае горан. Пачынаюць ляцець іскры. Разгараецца полымя.

К а в а л ь

Раздувайся агонь, хай заблісне іскра,
Мне здаецца, што ты нашай волі зара.

*(Бярэ кавалак жалеза і кладзе яго ў вугаль, дзьме.)*

Казаў я калісь, дрэнна робім мы,
Не хопіць нам сілы змагацца проць цьмы,
Калі не зрабілі пярсцёнка, як след,
Я знаю, бо чуў, як казаў калісь дзед,
Сівенькі старык, ой і помніў ён шмат,
Тады ён з'явіўся, хадзіў каля хат,
Казаў нам: «Рыхтуйцеся, час ўжо ідзе,
Калі не гатовы, дык быці бядзе...».

А мы і не зналі, што доля нясе,
Спрачаліcь, крычалі, грызліся ўсе.
Пярсцёнак зрабілі і што ж... ён благі —
Быў мяккі, ну й з'ела іржа берагі.
А дзед мне казаў, што патрэбная сталь
Так цвёрдая, быццам блакіт светлых даляў,
Дый, каб свяціла яна блескам хваляў.
«Паўстане князёўна, — казаў, — дый без сілы,
Яна без пярсцёнка не кіне магілы...».

*(Пэўны час маўчыць.)*

І што ж, нас ізноў цемры сілы скруцілі,
Ізноў, як звяроў, на ланцуг пасадзілі,
Ой, цяжка, нам цяжка!што будзе далей,
Ці доўга нас будзе сушыць сухавей?

*(Выцягвае з горна кавалак жалеза і пачынае яго каваць.)*

Але ўжо хіба за працу вазьмуся,
А ну, а можа, так размахнуся,
Што выплаўлю гэтую сталь неўзнарок.

### *З'ява другая*

У кузню ўваходзяць д в о е с я л я н. Адзін з іх нясе саху.

П е р ш ы с е л я н і н.

Бог помач! Як жывеш, мой браток?

К а в а л ь

Як і заўсёды, вось з дня дый на дзень,
Як і ўсе, вось сланяюсь, што цень.



П е р ш ы с е л я н і н

Прынёс я саху, трэба справіць нарог,
Спаткаў, бач, суседа — зайшліся удвох.
Ці маеш сам часу, мо пільнае ёсць,
Можа ранейшы ўжо някі госць
Нешта прасіў, бачу ёсць што каваць,
Дык часу я маю, магу пачакаць.

К а в а л ь *(аглядае саху)*

Часу маю і я, гэта зробіма ўраз.

Каваль кладзе парог у гарно, адзін з сялян дзьме, каваль мяшае вугаллё, другі селянін прыглядаецца.

Хацеў вось пярсцёнак рабіць ў вольны час,
Але й баюся я ўпрост пачынаць.

Д р у г і с е л я н і н

Чаму ж? Калі ўздумаў, дык трэба каваць.

К а в а л ь *(перабіваючы)*

Бо кожны патрапіць сказаць, што не так,
На гэта, бач, з нашых знайдзецца мастак,
Але, калі штосьці сапраўды рабіць —
Ніхто не патрапіць сказаць, як трэ быць.
Ну, але што будзе, спрабую, а ну!
А ну мы нарэшце пакінем турму
Гэтай няволі, што ведзьмы зрабілі.
Гэта ж быць можа у кожнае хвілі.
Што ж будзе тады, як не будзе яго?
Што ж зноўку чакае народу майго?
Няўжо так бясконца і будзе у нас,
Няўжо не надойдзе яднаючы час.

*(Дастае жалеза з агню і пачынае каваць.)*

П е р ш ы   с е л я н і н

Так цяжка жывецца — лажысь памірай.

Д р у г і   с е л я н і н

Цяпер гэта ўсюды: ад краю у край,
Кожны так стогне, што зробіш, сусед,
Гэткі цяперака, браце, ўжо свет.
Гэтак усюды, для нас жа ўсё роўна,
Хоць бы і нават паўстала Князёўна.
Ці будзе ляпей, яшчэ трэба спытаць!

П е р ш ы   с е л я н і н

Будзе! Дый толькі ці нам дачакаць,
Надта ўжо крэпкія чары ліхія,
А мы, як сам знаеш, ужо несвятыя,
Сварымся часта, яднання няма,
Без помачы ж нашай не ўстане яна.

Д р у г і   с е л я н і н

Так, сварымся мы, а нашыя ж дзеці,
Ці ж лепшыя крыху...

П е р ш ы   с е л я н і н

так ўсюды на свеце.

Д р у г і   с е л я н і н

Што ўсюды! Ці ж гэтак яшчэ шмат цярпець,
Ведзьмам не трапіць усіх адалець.
Нам трэба рабіць штось, дый мы старыкі,
А дзеці не хочуць падняць нат рукі.
Нас ведзьмы чмуцяць, а ўжо іх, дык аж стыдна
Стыдна глядзець, сэрца ные. Абідна...

Змаўкаюць. Толькі стукае малаток.



*(Праз хвіліну.)*

Мы думалі, ўсклалі надзею на іх,
Што яны для Князёўны апошні свой ўздых
Складуць, забыўшыся ўсё навакол,
А тут, хоць чашы на галовах ім кол,
Нічога не будзе...

П е р ш ы   с е л я н і н

...А ўсё ж гіне шмат...
Ведзьмы іх мучаць, адбіўшы ад хат.
І гінуць яны з клічам: «Усё для Яе!».

Д р у г і   с е л я н і н

Кінь, смешна слухаць гаворкі твае,
Гінуць намарна: другія псуюць,
Крыві іх насенню ўзысці не даюць,
Толькі й мяркуюць, каб ім выгадней
Было бы цярпець і знясці нек лягчэй.
Спрэчкі вядуць і адзін аднаго
Грызе, як сабака...

П е р ш ы   с е л я н і н

...Ну, хто без таго.

Д р у г і   с е л я н і н *(не зважаючы)*

Літасці просяць у ведзьмаў, ў каго?
Бацьку забыўшыся нат сваяго.
Ой, стыдна нам, стыдна, дзе праўду знайсці?
Сілы не маю іх лаяць, клясці...

### *З'ява трэцяя*

У кузню ўваходзіць падарожны стары д з е д, ён увесь абвешаны торбамі.

Д з е д

Бог помач вам, людзі!.. Змарыўся зусім,
Ўжо старасць, што зробіш, калісь быў не тым.

*(Сядае.)*

К а в а л ь

Што добрага дзеду на свеце чуваць?..

Д з е д

Э, браце, дзе добрае можна спаткаць,
Схавалась яно і, бач, цяжка знайсці,
Само не захоча у рукі ісці.
Ішоў я дарогай, пад лесам, вунь там,
Гляджу і не веру упроста вачам:
Наш Рыцар нясецца, як вецер імкне,
Спыніўся адразу, як ўбачыў мяне,
І кажа: «Дзеду, скажы кавалю,
Хай робіць жа штосьці, прашу я, малю».

К а в а л ь

Ці зроблю што толькі, надзеі няма...
Стаіць перашкодай грызні тцман-цьма.
Ведзьмы штодзень яе сеюць ўкруг нас,
Баяцца, што можа калісь прыдзе час,
Што мы ачуняем, яднацца пачнём,
Гэта ж зблiжаецца з кожным ўжо днём.

Д з е д

Так, браце, яднайцеся, разам усе,
Споўніце пэўна жаданні свае.



Блудных дзяцей, адганеце упроч,
А ну, бач, і хутка кашмарная ноч
Зляціць недзе ў даль і сайдзе ў небыццё,
Вам трэба нанова ствараці жыццё.
І самі тварэце, а ведзьмаў ліхіх
Ганеце у пекла, хай йдуць да сваіх.
Ці ж можна, каб вашу зямельку яны
Паганілі гэтак, вы ж волі сыны,
А ў цемры сядзеце, рабеце ўсё ж штосьць.

П е р ш ы с е л я н і н

Дзеду, спытай, а ці сілы ў нас ёсць?
Нас ўсюды нячысцікі так сцерагуць,
Нам нават свабодна ўздыхнуць не даюць.

Д з е д

Рыцар хмары ударам мяча перарве,
Вас, брацця, да шчасця, ўпярод пазаве.
Не вечныя чары і маюць канец
Над імі загонім асіну-капец.
Не ўстаць тады ім, нас доля ўбароне,
Хай жа ляцяць недзе ў прорву-бяздонне,
А тутка у нас жыццё буйна заб'е,
І струменем борзда уперад памкне.
Пабачыце потым, пабачыце ўсе —
Час змены вялікія вам прынясе.

*(Устаючы, выцягвае руку. Вочы блішчаць. Сам, выдаецца, поўны нейкага агнявога бляску.)*

Верце й гатуйцеся! Блізкі ўжо дзень,
Вам хутка праз хмары заблісне прамень,
Дык будзьце гатовы, не спіце, браты!
Калі праспіцё, дык ізнову гады —
Будзеце ў цемры свае каркі гнуць.

Будзьце гатовы! Бо вас праклянуць
Ўнукі і дзеці, калі зноў прамах

*(Апускаючы руку.)*

Аб ім страшна думаць, мне робіцца жах.

*(Змаўкае. Праз хвіліну.)*

Кажу вам, пярсцёнак зрабіце хутчэй,
Як выб'е гадзіна, дык будзе лягчэй!
Я пайду ужо... Мушу ўсіх гатаваць
Мо прыйдзецца хутка Князёўну спаткаць.

*(Выходзіць.)*

### *З'ява чацвёртая*

Тыя ж самыя, але без дзеда.

К а в а л ь

Гатуйцеся! Так, трэба нешта рабіць,
Аб сабе нам трэба ўсё чыста забыць.
Вось толькі, ці гэта патрапіма мы
Сустрэць ці нам толькі збліжэнне вясны?
Ну, будзема верыць, што скончыцца сон,
Што хутка замоўкне магутны той стогн,
Які разлягаецца між нашых хат.

П е р ш ы  с е л я н і н

Вось толькі ахвяраў патрэба нам шмат.

К а в а л ь

Зложым усё і здабудзем усё
З Князёўнай паўстане ўжо наша жыццё.
Э, што быць мае, хай будзе сабе!

*(Падаючы селяніну нарог.)*



Нарог ужо гатоў...

Д р у г і  с е л я н і н *(бярэ нарог)*

Дзякуй, братко, табе...

*(Звяртаецца да першага селяніна.)*

Мы пойдзем ужо, трэба ехаць араць,
Ідзём...

*(Да каваля.)*

...Ну, бывай. Бо няма што чакаць.

Бяруць саху і выходзяць.

### *З'ява пятая*

К а в а л ь *(адзін)*

Пайшлі. Пэўна знову збліжаецца час,
Бо дзед нездарма з'явіўся між нас.
Дык трэба, я мушу пярсцёнак зрабіць,
Хай гэта мне знача: ці быць, ці не быць.

*(Бярэ кавалак жалеза, кладзе яго ў горан. Пачынае дзьмухаць. Агню няма. Варушыць вуголле.)*

Што ж тут за ліха?.. А, а... мокра ў гарне!
Ці гэта я сню, ці здаецца ўжо мне?

З-пад горна чуваць шалёны рогат.

Хто ж зноў рагоча за сценкай вунь там!

### *З’ява шостая*

З-пад гарна вылятае н я ч ы с ц і к.

Н я ч ы с ц і к

Ха-ха… і ён думае зробіць штось сам!
Што, цяжка рабіць? Як не хачу вось я,
Бо бачыш такая ўжо воля мая.

*(Рагоча і хаваецца.)*

### *З’ява сёмая*

К а в а л ь выграбае мокрае вугаллё, сыпле іншыя. Распальвае іх. Пачынае дзьмуць.

К а в а л ь

Агонь распалю, бухне полымя ўраз,
Бліжэй ужо воля, ідзе ужо час!
Гэй, доля, о, доля! Цябе я заву,
Злажу ў барацьбе я сваю галаву,
Пярсцёнак Князёўне напэўна зраблю…
О, доля! Я волю шалёна люблю!

### *З’ява восьмая*

Уваходзіць ў кузню маладая д з я ў ч ы н а надзвычайнай прыгажосці. Убрана ў лёгкую белаю вопратку.

Д о л я *(да каваля)*

Любі, браце, волю й Князёўну любі,
Куй сталь на пярсцёнак і спешна рабі.
Я буду цябе бараніць й помач дам,
Яго зробіш хутка, здзівішся сам,
Працуй!..

*(Знікае.)*



### *З’ява дзявятая*

К а в а л ь

…Зараз жа, зараз, о доля, пачну…
І Князёўна хутка прачнецца ад сну.

*(Дзьме моўчкі. Пасля дастае невялікі кавалак распаленага жалеза. Кладзе яго на накавальню.)*

### *З’ява дзясятая*

У кузню забягаюць тры х л о п ч ы к і, якія апранутыя ў зялёную вопратку.

А д з і н х л о п ч ы к *(падае кавалю невялікі сярэбраны малаток)*

Доля табе вось дала малаток,
З ім зробіш пярсцёнак ураз неўзнарок.

Каваль бярэ малаток і пачынае каваць, спяваючы песню. Хлопчыкі слухаюць і прыглядаюцца.

К а в а л ь *(спявае)*

Гэй, я каваль,
Кую-гартую сталь.
Іскры лятуць,
Клічуць, ўперад завуць,
Гэй жа, молат!
Сябра мой, ты волат,
Ўзвійся ўгару
У добрую пару.
Разбі ланцуг,
Скрышы яго ў пух,
Звольні народ,
Які ўжо столькі год
Стагнаў пад ім,

Узвійся, як дым.
Дык раз у раз
Ўжо блізкі волі час.
Досыць нам слёз
І крыўды ён прынёс.
Скрышым яго
Для шчасця свайго,
Дык раз у раз,
Ўжо блізкі волі час.

Скончыўшы каваць, шліфуе пярсцёнак у цісках. Хлопцы дапамагаюць яму, падаючы адпаведныя інструменты. У канцы бярэ ў рукі пярсцёнак і прыглядаецца. Пярсцёнак увесь час мігціць зяленаватым агнём.

К а в а л ь

Грае іскра ў ім, гарыць ён агнём,
Прамень па ім ўецца бліскучым змяём,
Зроблены ён і гатовы ўжо я
Доля! О, дзякую моцна...

Раптам бачыць незвычайную яснасць, якая пачынае падымацца над борам, мяняючыся ў колерах.

...што там? А... а?..
Блеск дзіўны ліецца, агонь зігаціць
Што ж бы за дзівы маглі бы там быць.

*(Выбягае.)*

Хлопчыкі знікаюць.



***З'ява адзінаццатая***

Выбягаючы, к а в а л ь сустракаецца з р ы ц а р а м.

Р ы ц а р *(да каваля)*

Браце, за мной! Там нявольнікі йдуць,
Хутчэй, як гатоў! Нам патрэбна прымкнуць
Да іх грамады. Гэй, хутчэй упярод!
Глядзі! Там б'е яснасць, глядзі, йдзе народ.
Вольныя, вольныя — вольныя мы,
Час ўжо пакінуці сцены турмы!
Князёўна ўстае, яе скончыўся сон,
Народ зачарованы — вольны ўжо ён!
Ідзем, нам патрэбна яе бараніць,
Хучэй, як гатоў... Чуеш: песня грыміць...

Далятаюць гукі маршу і зыкі песні. Слухаюць.

П е с н я

Падыйшоў абуджэння час,
Ўжо даволі мук для нас!
Цемры сілы ўпроч лятуць,
Трэба нам рады самкнуць,
Падняволены народ!
Смела пойдзема ў бой
За правы і за край свій.
Кроў няхай крыніцай б'е,
Грудзі выставім свае
З клічам: «Упярод!»

К а в а л ь

Чую, чую, гатоў я аддаці жыццё,
Князёўна! О, скарбе ты мой, багаццё,
Ты вольная! Рыцару, разам хутчэй
Блеск светазарны ўзгарыся ясней.

### *З'ява дванаццатая*

На шлях выходзіць грамада с я л я н з косамі, з сярпамі. Ідуць, цяжка адбіваючы крок, і спяваюць.

К а в а л ь

Дык на спатканне жа лепшых ўжо дзён,
Рыцару, дружа. Ідзём, гэй ідзём!

Каваль і Рыцар далучаюцца да грамады. Гучыць песня.

П е с н я

Блеск вітаючы зары,
Гэй, наперад, змагары!
Дружна, смела, крок у крок,
Гэй, арлы, ваш смелы зрок.
Гэй, нявольнікі, ідзём!
Гадам подлым шлём праклён,
Перуном гудзе хай ён.
Лепш няхай лятуць упроч,
Ужо кончылася ноч!
Волю й праўду мы нясём!
Там агонь, хутчэй туды,
Хто не хоча больш бяды,
Каму досыць ўжо пакут,
Каму дораг родны кут,
Гэй, смялей ідзём у бой.

Праходзяць усе. Дарога і кузня пустыя. Песня гучыць, потым цішэй і цішэй.

З а с л о н а.

## Каментар

Вершы Аўгена Бартуля, якія склалі гэты зборнік, паходзяць з розных віленскіх, рыжскіх і дзвінскіх беларускіх выданняў 1920–1930-х гадоў. Складальнік зрабіў многіх вершаў транслітарацыю з беларускай лацінкі.

Тэксты твораў друкуюцца згодна з правіламі сучаснай арфаграфіі і пунктуацыі, але з пэўным захаваннем асаблівасцей аўтарскай лексікі і стылістыкі.

Тэксты размешчаны не ў храналагічнай паслядоўнасці.

***«Бунтаўшчык», «Марш моладзі», «Вечар працоўных»***

Вершы друкуюцца паводле зборніка «Першы крок». Рыга, 1926. С. 12–14.

***«Брату»***

Друкуецца паводле газеты «Biełaruskaja krynica», 1927, № 46, 11 лістапада.

***«Хмара»***

Друкуецца паводле газеты «Biełaruskaja krynica», 1927, № 39, 23 верасня.

***«Русалкі», «Бацьку», «Досыць!»***

Вершы друкуюцца паводле часопіса «Родныя гоні», 1927, № 1.

***«Песня віхру», «Машэка»***

Друкуецца паводле часопіса «Беларуская культура», 1927, № 2–3.

***«Славацкаму», «Летні вечар»***

Вершы друкуюцца паводле часопіса «Беларуская культура», 1927, № 1. Верш «Славацкаму» прысвечаны польскаму паэту Юльюшу Славацкаму (1809–1849).

***«Дзе вы?», «Ў праменнях сонца...», «Слава тым...», «Станку»***

Вершы друкуюцца паводле часопіса «Студэнцкая думка», 1929, № 1.

***«Народ! Наш жыве і жыццё, як крыніцы...», «З рэстаранных матываў»***

Друкуецца паводле часопіса «Студэнцкая думка», 1928, № 3.

***«Беларусі»***

Друкуецца паводле часопіса «Беларуская культура», 1927, № 1.

***«З шумнага дымнага гораду...», «Ідзе...»***

Друкуецца паводле часопіса «Студэнцкая думка», 1929, № 1.

***«Дудару»***

Друкуецца паводле часопіса «Школьная праца», 1926, № 1.

***«Мільёны дыяметаў зорак...»***

Друкуецца паводле газеты «Biełaruskaja krynica», 1927, № 40, 30 верасня.

***«Ці не лепш без думак жыці?..»***

Друкуецца паводле газеты «Biełaruskaja krynica», 1927, № 41, 7 кастрычніка.

***«Зіма»***

Друкуецца паводле газеты «Biełaruskaja krynica», 1927, № 52, 25 снежня.

***«Гэй, успыхні!», «Браты мае, нас не адзін мільён...», «Ноч»***

Вершы друкуюцца паводле «Беларускага ілюстраванага календара на 1928 год». Вільня, 1927. С. 34–35.

***«З песняў маладосці»***

Друкуецца паводле зборніка «Беларускі дэкламатар». Вільня, 1928. С. 43.

***«Бацькаўшчыне», «Упярод!»***

Друкуецца паводле часопіса «Студэнцкая думка», 1928, № 1.



***«Бунтуе кроў бунтарная...», «Веснарунь», «На дыване сузмроку ночы...»***

Вершы друкуюцца паводле зборніка «Рунь веснаходу». Вільня, 1928. С. 3–5.

***«25.III.18–25.III.28»***

Друкуецца паводле часопіса «Студэнцкая думка», 1928, № 2.

***«Міхасю Васільку», «Непагода»***

Друкуецца паводле часопіса «Студэнцкая думка», 1928, № 2. Верш, прысвечаны беларускаму паэту Міхасю Васільку (1905–1960) друкаваўся пад назвай «З песняў маладосці».

***«Варта»***

Друкуецца паводле газеты «Biełaruskaja krynica», 1928, № 14, 16 лютага.

***«Мы паўсталі...», «Заплакалі струны...»***

Друкуецца паводле часопіса «Студэнцкая думка», 1928, № 2.

***«Не вы сілы маладыя...»***

Друкуецца паводле газеты «Biełaruskaja krynica», 1928, № 7, 26 студзеня.

***«Даспела жыта залатое...»***

Друкуецца паводле газеты «Biełaruskaja krynica», 1928, № 44, 23 верасня.

***«У паветры чыстым, як крышталь...»***

Друкуецца паводле газеты «Biełaruskaja krynica», 1928, № 19, 20 лютага.

***«Ледаход»***

Друкуецца паводле часопіса «Родныя гоні», 1927, № 2.

***«Каханне, як мора...»***

Друкуецца паводле газеты «Biełaruskaja krynica», 1928, № 13, 9 лютага.

***«Ўглядзіся, прахожы, з здзіўленнем...»***

Друкуецца паводле газеты «Biełaruskaja krynica», 1929, № 20, 30 мая.

***«Над Вілейкай»***

Друкуецца паводле газеты «Biełaruskaja krynica», 1929, № 18, 12 мая.

***«Трыялеты»***

Друкуецца паводле газеты «Biełaruskaja krynica», 1928, № 31, 10 лістапада.

***«Светлай памяці Райніса»***

Друкуецца паводле газеты «Biełaruskaja krynica», 1929, № 28, 27 верасня. Верш, прысвечаны памяці народнага паэта Латвіі Яна Райніса (1865–1929).

***«Думкі мае, летуценні мае...»***

Друкуецца паводле газеты «Biełaruskaja krynica», 1928, № 18, 28 лютага.

***«Вёсцы»***

Друкуецца паводле часопіса «Шлях моладзі», 1929, № 4.

***«Вечар смяецца вось так, як калісці...»***

Друкуецца паводле часопіса «Шлях моладзі», 1929, № 9.

***«Праз вакно»***

Друкуецца паводле часопіса «Шлях моладзі», 1930, № 2.

***«Ці любіш?..»***

Друкуецца паводле «Беларускага гаспадарчага календара на 1931 год». Вільня, 1930. С. 146.

***«Ці памятаеш ты...», «Я выклікаю з будучыні вобраз твой...»***

Друкуецца паводле часопіса «Студэнцкая думка», 1930, № 3.

***«Мы ў перамогу верым ўсе...», «Размроеным крокам...»***

Друкуецца паводле часопіса «Студэнцкая думка», 1930, № 2.



***«З рэстаранных матываў»***

Друкуецца паводле часопіса «Студэнцкая думка», 1928, № 3.

***«Голас Нёмна»***

Друкуецца паводле часопіса «Студэнцкая думка», 1925, № 3.

***«З казак ночы»***

Друкуецца паводле зборніка «Рунь веснаходу». Вільня, 1928. С. 6–13.

***«Князёўна»***

Друкуецца паводле часопіса «Беларуская культура», 1927, № 1, 2–3.

## Змест

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Бартуль** Аўген Данатавіч

КНЯЗЁЎНА

*З паэтычнай спадчыны*

Адказны за выпуск *Г. Вінярскі*
Рэдактар *А. Спрытніч*
Набор *С. Чыгрына*
Вёрстка *Л. Гарадзецкай*
Карэктар *А. Спрытніч*

Падпісана да друку 14.12.2016. Фармат 84×108 1/32.
Папера афсетная. Рызаграфія.
Ум. друк. арк. 5,67. Ул.-выд. арк. 4,32.
Наклад 50 ас. Зак. .

ПУП «Кнігазбор».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюдніка друкаваных выданняў № 1/377 ад 27.06.2014.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 207-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка ў ЗАТ «Аргбуд».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюдніка друкаваных выданняў 2/182 ад 15.02.2016.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.